НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 6 (843) 12 лютага 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Неканкурэнтаздольныя?

Сумныя заявы Мясніковіча, Пракаповіча і Латушкі

Старонка 3

## Смеласць Святланы Сяльверставай

Старонка 4



# Залатая наша



REUTERS

Беларуска бліскуча выйграла гонку пераследу (пагоню) на Алімпійскіх гульнях. Яна стартавала толькі дзявятай з 32 секундамі адставання ад славачкі Настассі Кузьміной. Месцы ў пагоні размяркоўваюцца па выніках спрынту. І ўсіх абышла! Дар'я — самая хуткая біятланістка свету. Ёй 27 гадоў, у біятлоне спартоўцы часта пачынаюць раскрывацца толькі пасля трыццаці. Нарадзілася ў Мінску, але гадавалася ў Цюменскай вобласці, куды пераехалі бацькі. Там і стала вучыцца біятлону. Калі паўстаў выбар: за якую краіну выступаць, Домрачава абрала Беларусь.

ЗП

# Збілі за бел-чырвоны-белы сцяг на балконе

Мінчука **Віктара Шаршуна** будуць судзіць за «непадпарадкаванне міліцыянтам».

Пенсіянер Віктар Шаршун жыве на трэцім паверсе пяціпавярховай «хрушчоўкі» на сталічным ціхім бульвары Тараса Шаўчэнкі. Аднак вечар 8 лютага для яго выдаўся зусім не ціхі.

Два тыдні таму мінчук павесіў на сваім балконе бел-чырвона-белы сцяг. Віктар не ўваходзіць у палітычныя партыі, а сцяг павесіў, бо «верыць у еўрапейскі накірунак развіцця нашай краіны». «Да таго ж, на світанку сцяг прывабна зіхаціў на сонцы», — дадае ён.

8 лютага сцяг прыйшлі здымаць. «Спачатку да маёй суседкі прыходзілі двое маладых хлапцоў «спартовага выгляду». Як іх ва Украіне клічуць... «цітушкі»... Яны думалі, што сцяг вісіць у яе, але памыліліся. А ўвечары вярнуліся да мяне», — узгадвае ён.


Кірыл Хілько

Прыкладна ў 18:30 у дзверы Віктара пазванілі. «У мяне на дзвярах ёсць вочка, аднак праз яго дрэнна бачна, што робіцца на лесвічнай пляцоўцы. Я паглядзеў — перад дзвярыма стаяў чалавек у цывільным. Ён сказаў, што з'яўляецца супрацоўнікам ЖЭСа. Я адамкнуў дзверы і ўбачыў, што побач з ім стаяць два міліцыянты. У іх не было бэджаў, яны не прадставіліся. Адразу загадалі прыбраць сцяг.

Я паспрабаваў замкнуць дзверы, але яны перашкодзілі, гвалтоўна ўварваліся ў маю кватэру. Я схапіў газавы балончык і накіраваў на іх, але балончык быў пусты. Тады мяне ўдарылі ў нос, павалілі, білі па рэбрах, потым прыклалі галавой аб падлогу».

Балончык Віктар набыў для самаабароны. Кажа, што аднойчы на яго кінуўся п'яны супрацоўнік ЖЭСа, таму ён вырашыў перастрахавацца. Аднак цяпер Віктар нават рады таму, што «зброя» не спрацавала.

«Мне патлумачылі: быў бы газ, пашкодзіў бы я каму зрок, наступствы былі б зусім іншымі», — кажа ён.

«Я быў босы, у чырвоных гумовых сланцах, і з голым торсам. На мяне зверху накінулі куртку і вывелі на вуліцу. Там мы яшчэ чакалі міліцэйскую машыну, якая мусіла даставіць нас у Цэнтральны РУУС. Падняцца і апрануцца мне не дазволілі. У РУУСе недзе да 9-й гадзіны вечара я сядзеў проста так. Потым мяне завезлі на медагляд на Мініна. Там мяне праверылі на алкаголь у крыві і вярнулі ў РУУС, склалі пратаколы за «непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы» і «абразу службовай асобы». Пратакол аформіў лейтэнант Ілля Бугор, супрацоўнік міліцыі Цэнтральнага раёна, а ў якасці сведкі выступіў Андрэй Верашчака. Я азнаёміўся з дакументам, падпісаў яго і мяне выпусцілі. Але калі я ўжо выходзіў з РУУС, мяне спыніў дзяжурны і сказаў: паступіў загад начальніка трымаць мяне да суда пад арыштам.

Пачуваўся я не вельмі добра: быў пабіты, дый тахікардыя нагадала пра сябе. Таму каля паловы на другую ночы мне выклікалі «хуткую», якая адвезла мяне ў 2-ю клінічную бальніцу. Там мне зрабілі рэнтген рэбраў — дзякуй Богу, абышлося без пераломаў — і кардыяграму. Міліцыянты са мною не паехалі. Таму з бальніцы мяне адпусцілі, і я паехаў дадому. У суд мяне абяцалі выклікаць позвай, але калі што адбудзецца, невядома», — расказвае пра свае прыгоды Віктар.


SVABODA.ORG

Бел-чырвона-белы сцяг лунаў над бульварам Шаўчэнкі і раней. «Першы раз я павесіў сцяг 19 снежня, у гадавіну Плошчы. Але нехта — не ведаю хто — залез па даху крамы праз суседскі балкон на мой і зняў яго. Выламалі дрэўка і ўцягнулі. Тады я звярнуўся да праваабаронцаў-«вясноўцаў». Мне патлумачылі, што гэтая сімволіка не зарэгістраваная, але і не забароненая, і на сваім балконе я магу павесіць гэты сцяг».

Віктар кажа, што над яго лецішчам таксама лунае бел-чырвона-белы сцяг. «Наступны сцяг для кватэры я набуду, як толькі атрымаю чарговую пенсію», — кажа ён.

**Кірыла Хілько**

## Сцісла

**За забойства лучніцы далі 15 гадоў**

Праграміст Канстанцін Казлоў, былы муж кіраўнічкі клуба лучнікаў Ганны Сардэчкінай, правядзе тэрмін у калоніі ўзмоцненага рэжыму. Апроч таго, ён сплаціць сястры забітай шкоду ў памеры $12 тысяч.

**Кнігу Бяляцкага загадалі вывезці за мяжу**

Суддзя Ашмянскага суда Таццяна Емельяновіч пастанавіла, што кніга палітвязня Алеся Бяляцкага «Асвечаныя Беларушчынай» падлягае забароне і вывазу з тэрыторыі Беларусі. Гэта вынік грамадзянскай справы праваабаронцы Таццяны Равякі супраць ашмянскай мытні.

**Нарказалежных становіцца ўсё больш**

За апошняе дзесяцігоддзе колькасць нарказалежных павялічылася ў 7 разоў. Сёння на ўліку знаходзяцца больш за 16 тысяч чалавек, яшчэ некалькі тысяч адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення волі і праходзяць лячэнне ананімна.

**Казахстан дэвальваваў тэнге на 19%**

Нацыянальны банк краіны вырашыў «знізіць аб'ёмы валютных інтэрвенцый і скараціць умяшанне ў працэс фарміравання абменнага курсу тэнге», паведаміла ведамства. Афіцыйны курс даляра цяпер склаў 185 тэнге, але банкі прадаюць яго больш чым па 200 тэнге.

**ЯМ**

## Апытанне на nn.by

**А Вам падабаецца манумент «Мужнасць» у Брэсцкай крэпасці?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 494 | 45% |
| Не | 470 | 43% |
| Расіянам падабаецца, таму мне не падабаецца | 91 | 8% |
| Амерыканцам не падабаецца, таму мне падабаецца | 36 | 3% |

Прагаласавала 1091

## Самае чытанае 29 студзеня — 4 лютага

1 Вольга Карач счапілася з беларускамоўнымі ў Фэйсбуку
2 Дзеячы культуры выказалі падтрымку арыштаваным фанатам БАТЭ
3 Прэм'ер Расіі Мядзведзеў заснуў на адкрыцці Алімпіяды?
4 Аляксандр Лукашэнка на цырымоніі адкрыцця Алімпіяды быў разам з Колем — фотафакт
5 Старшакласнік-медаліст у Маскве ўзяў у закладнікі клас і застрэліў двух чалавек
6 Дзе ў алімпійскім Сочы размешчаны батарэі і разеткі?
7 Пракаповіч — Лукашэнку: Будзьма рэалістамі, нашы МАЗы неканкурэнтныя
8 У Беларусі ўводзіцца маркіроўка планшэтаў
9 Расійская медалістка зладзіла выпадковы стрыптыз на фінішы
10 Кіроўца з Моталя паставіў рэкорд па ўтрыманні алкаголю ў крыві

З такімі заявамі выступілі **Міхаіл Мясніковіч**, **Пятро Пракаповіч** і **Павел Латушка**.

# Чыноўнікі распісаліся ў неканкурэнтнасці

«Аляксандр Рыгоравіч, трэба ж быць рэалістамі — у нас няма ні аднаго машынабудаўнічага прадпрыемства, якое было б канкурэнтаздольнае з сусветнымі лідарамі. Трэба яшчэ ўкласці мільярды і сотні мільёнаў — гэта рэальнасць», — так на крытыку Лукашэнкі адрэагаваў віцэ-прэм'ер Пятро Пракаповіч на нарадзе па развіцці прамысловага комплексу.

Можна было б падумаць, што Пракаповіч так выказаўся на эмоцыях. Аднак пасля і кіраўнік урада Міхаіл Мясніковіч пацвердзіў, што тавары сапраўды не вытрымліваюць ніякай крытыкі.

«Каб быць канкурэнтаздольнымі, нам трэба весці актыўную інвестыцыйную дзейнасць, мадэрнізацыю. Не ўмераную, не пасіўную. Без даступных крэдытаў вырашыць гэта немагчыма. Якія крыніцы? Прыбытак невысокі, бюджэтныя магчымасці абмежаваныя. Прамых замежных інвестыцый мала. Выручкі ад прыватызацыі няма амаль ніякай», — канстатаваў Мясніковіч.

Ну і для замацавання вобразу выступіў харызматычны пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка, які ў эфіры тэлеканала АНТ «рускім языком» сказаў: «Мы сустракаемся з сітуацыяй, калі наша тэхніка на прэзентацыях проста ламаецца. І, вядома ж, які можа быць давер да той прадукцыі, якая на першай жа прэзентацыі можа зламацца? Калі ключ ад адзінкі нашай тэхнікі не можа адамкнуць дзвярэй».

### Латушка: Які можа быць давер да той прадукцыі, якая на першай жа прэзентацыі можа зламацца

Ці выпадковыя гэтыя заявы? Чаму яны былі зробленыя ў адзін час? «Наша Ніва» папыталася ў эканаміста Сяргея Чалага.

«У прынцыпе, Пракаповіч сказаў усё правільна. Пытанне ў іншым: ці урад гэткім чынам спрабуе знайсці адмазкі, бо не прадаюцца тавары, ці ёсць ужо разуменне агульнай глыбіні сітуацыі. Раней жа як было? Узнікала пытанне: чаму праблемы на валютным рынку? Бо кепска прадаём свае тавары за мяжой. Чаму кепска прадаём? Бо з аднаго боку не надта добрая якасць, але тут працэс выпраўлення доўгатэрміновы, а з іншага — завышаная цана. Цана завышаная, бо ў краіне завышаны курс рубля. А наш тэхналагічны ўзровень не дазваляе трымаць яго такім высокім.

Дэвальвацыя ж у сённяшніх умовах прызнаецца курсам няправільным. Нядаўна пра гэта казаў кіраўнік дзяржавы, які знайшоў новы крэдыт. Вядома, дэвальвацыя б часткова вырашыла праблемы збыту тавараў. Выдаткі на выраб якіх зменшыліся б, а гэта значыць, і зменшыўся б сабекошт тавараў.

Сёння ў нас існуе такая заганная з'ява, што эканоміка можа дзейнічаць толькі пры сярэдніх заробках у 250—300 даляраў. Толькі тады праблем не будзе.

Мне здаецца, што ў мінулым годзе стала зразумела, што мадэрнізацыя правалілася, адсюль сённяшнія такія заявы. Мікраэканомікай не вырашыць усе праблемы. Сёння сітуацыя такая, што паспяховыя прадпрыемствы аддаюць свае грошы на прадпрыемствы-зомбі, якія без дзяржаўнай падтрымкі не могуць існаваць. І гэта падаецца як вялізнае дасягненне нашай эканамічнай мадэлі.

А мадэрнізацыя — гэта не толькі дысцыпліна, пабелка сценак і ўсталяванне новых станкоў, як меркавалі ў вярхах. Пракаповіч ужо намякаў, што мадэрнізацыя мусіць быць не толькі тэхналагічнай, але і эканамічнай. Асабіста мне гэта нагадвае першыя гады кіравання Гарбачова, калі была прынятая палітыка «ускорения», якая правалілася праз два гады. Толькі тады сталі мяняць усю сістэму. У нас мадэрнізацыя таксама пратрымалася каля 1,5 года».

Таксама з заявай на мінулым тыдні выступіў памочнік прэзідэнта ў пытаннях эканомікі Кірыл Руды. На старонках «СБ» ён прапанаваў да 2030 года развіваць сферу паслуг і галіну ай-ці замест сённяшняй сельскай гаспадаркі.

«Пакуль не ясна, як пражыць найбліжэйшыя паўгода, а тут гавораць, што будзе праз 15 гадоў, — кажа Сяргей Чалы. — На мой погляд, не трэба ставіць канкрэтныя задачы, што развіваць, а гнутка рэагаваць на патрэбы рынку. Пакуль што гэта нагадвае сталінскі перыяд, калі ўсе сілы накіроўвалі на развіццё адной сферы. Магчыма, у індустрыялізацыі гэта дзейнічала, аднак наўрад ці тое будзе эфектыўна ў галіне ведаў і тэхналогій».

**Зміцер Панкавец**

# «А вакол жа яго — адна поскудзь!»

Колькі існуе беларуская апазіцыя, столькі яе і папікаюць, што **«страшна далёкія яны ад народа»**.

Мясцовыя выбары — чарговы шанец выйсці апазіцыі ў народ. А для народа гэта чарговы шанец выказаць свой «голас Божы» наконт палітыкі.

На пляцоўцы ў Гомелі мерзлі апазіцыянеры, збіраючы ў народу подпісы, мы ж тым часам апытвалі народ, які ставіў ці не ставіў подпісы.

Збольшага народ праходзіў паўз пікет па зборы подпісаў моўчкі і шпарка, раз-пораз са здзіўленнем азіраючыся на бел-чырвона-белы сцяг. Рэдка калі хто прыпыняў крок, каб пагаварыць-паспрачацца ці паставіць свой подпіс за вылучэнне кандыдата. Адна сталая кабета злосна віснула: «Што гэта вы тут, га? Майдан хочаце ўтварыць?! Цьфу!» Другая, праходзячы паўз пікет, толькі вочы закаціла ў неба і прашаптала: «Госпадзе....» Ён, можа, і пачуў яе не вымаўленае ўслых таемнае жаданне, бо праз колькі хвілін да пікета наблізіліся міліцыянеры...




У Гомелі на мінулых выбарах у палату прадстаўнікоў дэпутат ад Навабеліцкай акругі не быў прызначаны. Апазіцыянер зняў сваю кандыдатуру напярэдадні галасавання, уладны функцыянер якраз у нядобры час трапіў у непрыгожую гісторыю з падзелам дармавых кватэр і таксама мусіў «зняцца», а вылучэнец ад ЛДПБ застаўся без галасоў выбаршчыкаў. Таму «давыбары» па Навабеліцкай акрузе пройдуць сумесна з выбарамі ў мясцовыя Саветы — 23 сакавіка.

Пагаварыць людзі любяць. Толькі рэдка іх хто слухае. Таму гэтую важную місію «свабодных вушэй» мы самааддана ўсклалі ў гэты марозны дзень на сябе.

З людзьмі мы гаварылі пра палітыку ўвогуле, і ў прыватнасці — пра мясцовыя выбары і падзеі ва Украіне.

Галіна Аляксандраўна, галоўны бухгалтар, падзялілася з намі сваім бачаннем палітычнай сітуацыі тут і там, у нас і ў нашай найбліжэйшай краіны-суседкі.

«Ніякіх кандыдатаў і дэпутатаў я не ведаю — ні залежных, ні незалежных, ніякага паняцця не маю. Хацела б хоць калі ўбачыць ці пачуць тых дэпутатаў, але не чула і не бачыла. На мясцовыя выбары не хаджу, бо я іх не ведаю. Я хаджу толькі на прэзідэнцкія выбары — бо яго я бачу, прэзідэнта, чую, яго магу ацэньваць, а гэтых не магу ацэньваць. Таму не магу галасаваць ні «за», ні «супраць», — тлумачыла адсутнасць жадання ўдзельнічаць у мясцовых выбарах эканаміст.

Мае жанчына свой погляд і на падзеі на Украіне. «Я таго Януковіча не ведаю, але я супраць. Не супраць яго, а супраць таго, каб вось так, на вуліцы. Трэба ўсё вырашаць мірна, праз галасаванне, напрыклад. Я лічу, што ўкраінцы павінны быць з Расіяй, каб Расія іх падтрымлівала. Вось ім трэба прыклад браць з нашага прэзідэнта — ён і ад Захаду не адыходзіць, і ад Усходу таксама. Вось так трэба рабіць і Украіне, сярэднюю пазіцыю ім трэба займаць», — дала ўкраінцам каштоўныя парады гамяльчанка.

Пенсіянер Іван Афанасьевіч данёс да нас інфармацыю, што галасуе ён звычайна за ўрад, а выбары ў Беларусі ў большай ступені чэсныя. «Ну, на 90 адсоткаў чэсныя, а так — дробязь», — упэўнены мужчына.

Увогуле, ён параіў ведаць усім законы прыроды. «Каб мы ведалі законы прыроды — як раней егіпцяне, іншыя цывілізацыі — у нас было б камфортнае жыццё», — лічыць суразмоўца.

Пра шматвектарную палітыку нашай дзяржавы ён выказаўся дыпламатычна: «Мы — маленькая краіна, нам абавязкова з кімсьці трэба жыць: ці з Еўропай, ці з Расіяй. Канечне, хочацца ў Еўропу, але па менталітэце мы больш да Расіі цягнемся. Трэба, можа, злучыцца спачатку з Расіяй, а потым разам з ёй і ісці ў Еўропу». Тут прамоўцу перабівае жонка: «А я не хачу ў Расію ісці! Я ў Еўропу хачу!» Муж яе супакойвае: «Ды куды нам у Еўропу?! Мы ж не цывілізаваныя, не ўмеем нічога!» Але жонка працягвае настойваць: «Ну не ўмеем — дык навучыліся б!»

Пара пенсіянераў сталага ўзросту абяцаюць ісці на мясцовыя выбары, бо заўсёды ходзяць. Толькі перажываюць, што мінулай восенню, на выбарах у парламент, засталіся па-за палітычнай падзеяй. «Мы на дачы былі! Мы і яшчэ нас было на дачах чалавек трыста! І нам не далі аўтобус, каб мы паехалі і прагаласавалі! І па нас ніхто не прыехаў! Пусцілі толькі адзін маленькі аўтобус — ну як мы туды, трыста чалавек, маглі залезці? А потым Лукашэнка на нас сварыўся — маўляў, Навабеліцкая акруга не прагаласавала, трэба новыя выбары рабіць. Мы ж хацелі — а нам аўтобуса не далі!» — апраўдваліся пенсіянеры.

Маюць сваё меркаванне нашы суразмоўцы-пенсіянеры і наконт таго, чаго выйшлі на Майдан украінцы. «Ім Расія дала газ, а яны той газ не пусцілі на Захад, там ледзь усе на памерзлі, на Захадзе, нават дзеці ў школу не пайшлі. Здаецца, з-за гэтага зараз украінцы і выйшлі», — меркуюць муж і жонка.

Мужчына гадоў 50 пра ўкраінскія падзеі кажа лаканічна: «Дацокаліся! Самі вінаватыя, што паставілі таго Януковіча прэзідэнтам!» Беларускага ж калегу Януковіча яму вельмі шкада. «Я за яго баюся, за нашага прэзідэнта. Ён жа за ўсё клапоціцца, усё сам, вунь за дрэваапрацоўку ўзяўся, за спажывецкую кааперацыю ўзяўся, са ўсім сам разбіраецца. А вакол жа яго — адна поскудзь! Ён у такім атачэнні, што бездапаможны проста сярод гэтай поскудзі!» — хвалюецца мужчына.

Ці прамаўляе Бог галасам нашага народа — мы не ведаем. Але што яго багоў стварае тэлевізар, ведаем дакладна.

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

# Мемарыял «Мужнасць» і «раззлаваныя беларусы»

CNN назвала мемарыял «Брэсцкая крэпасць» пачварным помнікам. Дурны жарт перарос у міжнародны скандал.

Амерыканская тэлекампанія CNN склала спіс самых пачварных помнікаў свету. Помнік Папу Яну Паўлу II у Рыме, Арка нейтралітэту ў Туркменістане, помнік гею Оскару Уайльду ў Лондане, «Сляза смутку», якую расійскі архітэктар Зураб Цэрэтэлі падарыў амерыканцам... «Гэтая падборка сентыментальных пямылак і занадта грузных твораў мастацтва можа паслужыць прыкладам безгустоўшчыны і перабору ў сферы крэатыву, хоць дыктатары і іх мастацкія камітэты ў свой час лічылі ўсё гэта выдатнай ідэяй», — адзначыў стваральнік спіса, адзін з пазаштатных аўтараў CNN.

У рэйтынг трапіў і манумент «Мужнасць», які знаходзіцца ў Брэсцкай крэпасці. Скульптуру назвалі «Раззлаваным беларусам, які ўзнікае з велізарнага бетоннага блока». «Мужнасць — гэта тое, што неабходна падчас сузірання гэтага бетоннага беларуса, які або вельмі злы, або пакутуе на запор», — прадэманстраваў сваё спецыфічнае пачуццё гумару аўтар.

Жарт тым часам перарос у міжнародны скандал. Спачатку публікацыяй абурылася кіраўніцтва «Брэсцкай крэпасці», пасля з афіцыйнай заявай выступіла і беларускае МЗС. А ў суседняй Расіі палітыкі прапанавалі забараніць вяшчанне тэлеканала.

CNN папрасіла прабачэння і на ўсялякі выпадак прыбрала матэрыял з сайта.

«Наша Ніва» паразмаўляла пра скандал са знаным архітэктарам Ірынай Лаўроўскай, якая займалася мемарыялізацыяй Брэсцкай крэпасці, а таксама ўдзельнічала ў стварэнні мемарыяла.

Ірына Лаўроўская — ідэальны чалавек, каб ацаніць з розных бакоў спрэчку вакол манумента «Мужнасць» у Брэсцкай крэпасці.



Ірына Лаўроўская.

Яна сама архітэктар і даследчык архітэктуры — доктар навук. Як грамадская дзеячка, яна займалася пытаннямі мемарыялізацыі крэпасці. А студэнткай яна брала ўдзел у будаўніцтве мемарыяла.

**«Наша Ніва»: Як будавалася «Мужнасць»? Ці праўда, што для стварэння перспектывы на яго быў зруйнаваны Белы палац? Увогуле, як ствараўся мемарыяльны коплекс крэпасці?**

**Ірына Лаўроўская:** Мемарыял пачалі будаваць у 1965. Тады святкавалася 20-годдзе перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, былі вялікія датацыі, гэта была ўсесаюзная будоўля. Да таго ж, у 1966-м у Брэсце адкрылі Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут, з моцным прафесарскім складам і архітэктурным факультэтам. Некаторыя з выкладчыкаў былі задзейнічаны ў праекце. У будоўлі ж увесь горад удзельнічаў, мы са студэнтамі ў 1972-м былі далучаныя да працэсу. Я сама бачыла, як руіны крэпасці прычэсвалі адбойнікамі, змяншалі вышыню інжынернага корпуса і калегіума. Гэта была мастацкая работа адбойным малатком па стварэнні руін. А Белы палац быў разабраны не тады, а недзе ў 50-х гадах. Хадзілі легенды, што маршал Цімашэнка загадаў разабраць, бо ён быў у небяспечным стане.

**«НН»: Вам «Мужнасць» падабалася?**

**ІЛ:** Не, мне не падабалася. Я, можна сказаць, вырасла ў крэпасці — мы бавілі там шмат часу ў дзяцінстве. Мы з бацькамі хадзілі туды адзначаць 9 Мая. Гэта было сапраўднае народнае свята: раскладалі абрусы, прыносілі ежу, спявалі песні — там было народнае гулянне, бо франтавікі тады былі яшчэ маладыя людзі. Пасля стварэння мемарыяла гэта перастала быць звычаем, берасцейцы перасталі туды хадзіць.



Я памятаю свае пачуцці, калі бацькі расказвалі пра вайну, пра крэпасць, я глядзела на траву ў крэпасці, і мне падавалася, што яна барвовая ад крыві, адбіўся гэты колер у памяці.

Калі гаварыць пра мастацкавобразную частку «Мужнасці», маштаб перадушыў усё. Шмат пафасу ў мемарыяле. І гэта дрэнна спалучаецца — пафас і гераізм.

**«НН»: «Мужнасць» — гэта твор у стылі познесавецкага «сувората мастацтва», здаецца?**

**ІЛ:** Упершыню быў зроблены такі маштаб скульптуры, спосаб фармоўкі таксама выкарыстоўваўся ўпершыню. Ён называецца «пераносная апалубка», калі манумент будаваўся — ён вырастаў на вачах. Дарэчы, па словах нашых выкладчыкаў, стваральнік «Мужнасці» Кібальнікаў казаў, што ён павялічыў маштаб скульптуры Маякоўскага ў Маскве і так стварыў манумент для крэпасці.

Увогуле, што сёння ацэньваць «Мужнасць»? Гэта трэба было казаць тады, на мастацкіх радах, аднак тады быў такі час: жыццё было перанасычана пафасам, пры гэтым ветэраны былі без уласных кватэраў.

Нядаўна ў Брэсце паставілі помнік да 1000-годдзя горада, які аказаўся калькай з помніка Кацярыне II у Адэсе, усё гэта не салідна... Мае бацькі, ды і іншыя франтавікі, не любілі гэты мемарыял, удзельнічалі ў яго стварэнні, дапамагалі, але гэты пафас манумента быў непатрэбны і штучны. Брэжнеўская няпраўда раздражняла і злавала, мой бацька казаў: «Ветэранаў вайны засталося мала, але з кожным годам прыбаўляецца тых, хто ішоў шэрагамі смершаўцаў».

**«НН»: Некаторыя з беларускіх інтэрнаўтаў сцвярджаюць, што такія помнікі нельга ацэньваць як твор мастацтва. Што калі за гэтым стаіць пакутніцтва людзей, такі помнік не можа быць прадметам зубаскальства. Вы дачка афіцэра, ведаеце цану ратнаму подзвігу. На вашую думку, наколькі такі падыход можна лічыць правільным?**

**ІЛ:** Кожны мае права на ацэнку твораў мастацтва. Форма, якую абраў канал CNN, была не найлепшая, але давялі скандал да міжнароднага ўзроўню дарма. Сам Кібальнікаў, дарэчы, упадабаў, калі «Мужнасць» пачала зарастаць мохам.

**«НН»: Якой вы бачыце ідэальную будучыню крэпасці? Што там павінна быць? І што, дарэчы, чуваць пра ідэі аднаўлення хаця б часткі архітэктурных жамчужын Старога Берасця, якія былі знесены для будаўніцтва імперскай крэпасці ў XIX ст.? Ці пайшла справа далей за словы?**

**ІЛ:** Уступная фаза — праектная прапанова — была зроблена. Далей трэба распрацоўка, я катэгарычна супраць таго, каб гэта быў маштабны праект. Добра было б, каб далучылася Акадэмія навук. Там столькі яшчэ невядомых і незразумелых цікавостак. Гэта вялікая тэрыторыя для археалагічных даследаванняў, адна царква Святога Мікалая чаго вартая — там у 1596 годзе была падпісана царкоўная унія, гэта месца пілігрымак уніятаў усяго свету.

Тэрыторыя, дзе амаль тысячагоддзе стаяў горад, а пасля была крэпасць, мусіць пачаць новае жыццё. Выпадак нязвыклы — тут некалькі гісторый, некалькі пластоў. Брэст — гэта ўнікальная гістарычная пляцоўка.

Гутарыў Юрась Ускоў

# Публіцысты замест навукоўцаў

Непрыгожыя справы робяцца ў у Гродзенскім універсітэце.



Святлана Куль-Сяльверстава.



Уладзімір Ягорычаў.

Гістарычная школа Гродзенскага ўніверсітэта мае рэпутацыю адной з найлепшых у краіне. Большасць яе прадстаўнікоў прытрымліваюцца нацыянальнай пазіцыі. Але... Не так даўно з Гродзенскага ўніверсітэта былі звольнены гісторыкі Андрэй Чарнякевіч і Вячаслаў Швед. Яшчэ раней вымушаны былі сысці Алесь Краўцэвіч і Алесь Смалянчук.

Каб цалкам узяць гістарычны асяродак пад свой кантроль, кіраўніцтва пайшло на рэарганізацыю гістарычнага факультэта. Ён быў аб'яднаны з факультэтам турызму. Такая перабудова затарабавала новай факультэцкай структуры. Штат кафедры прадугледжваў 8 ставак дацэнтаў. На іх прэтэндавала 13 асобаў. Адной з іх з'яўлялася аўтарытэтны гісторык Іна Соркіна. Аўтар манаграфіі «Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст.», за апошнія пяць гадоў яна мела 70 навуковых публікацый. Але яе кандыдатура была адхілена.

Іншым прэтэндэнтам з'яўляўся гісторык Уладзімір Ягорычаў, які ўжо дасягнуў пенсійнага ўзросту (нарадзіўся ў 1949 годзе). Пры абмеркаванні было агучана, што за апошнія пяць гадоў Ягорычаў апублікаваў 16 навуковых публікацый, у тым ліку 7 манаграфій. Яго кандыдатура была ўхвалена.

Святлана Куль-Сяльверстава, прафесар Гродзенскага ўніверсітэта, зацікавілася даследаваннямі Ягорычава. Паводле яе словаў, навуковую сапраўды належаць гэтыя працы. «Але частка з іх з'яўляецца непапраўленымі і недапоўненымі перавыданнямі апублікаванага раней». Сапраўды, назва адной з апошніх манаграфій («Харчовая палітыка Савецкай улады ў Беларусі (1917—1920 гг.)») супадае з тэмай кандыдацкай дысертацыі, абароненай яшчэ ў 1980 годзе. Частка манаграфій, працягвае Куль-Сяльверстава, «анатаваная як навукова-публіцыстычныя выданні, прызначаныя для шырокага кола чытачоў». У іх адсутнічае навуковы апарат і навуковае суправаджэнне. Назвы кніг гавораць самі за сябе (напрыклад, «Сам-насам з гістарычнай праўдай», «Нешта з памяццю нашай стала»). На сайце гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, сябрам якога з'яўляецца Ягорычаў, гэтыя кнігі пазначаны к публіцыстыцы. Цікава, што летась сам гісторык вылучаў іх на літаратурную прэмію імя Аляксандра Дубко. Сам Ягорычаў сцвярджае, што пазначыў свае працы як навукова-публіцыстычныя. А ўжо падчас атэстацыі іх для большай саліднасці зрабілі навуковымі.

Абураная Куль-Сяльверстава напісала ліст на імя рэктара Гродзенскага ўніверсітэта Андрэя Караля, у якім абвінавачала Ягорычава ў махлярстве. Бо згодна з інструкцыяй Вышэйшай атэстацыйнай камісіі ў спіс навуковых прац не могуць быць уключаны навукова-публіцыстычныя, газетныя артыкулы і іншыя матэрыялы такога кшталту. Калі прафесар атрымала ад кіраўніцтва адпіску, яна звярнулася да Анатоля Афанасьева, старшыні ВАК.

Куль-Сяльверстава ўпершыню вынесла на грамадскі разгляд праблему кваліфікацыі навуковых кадраў. А таксама ступень адпаведнасці прац заяўленым патрабаванням. Дзякуючы ёй праблема выйшла на рэспубліканскі ўзровень, і заплюшчыць на яе вочы ўжо не атрымаецца. Адначасова Куль-Сяльверстава працягвае змагацца за сваю калегу Іну Соркіну, чый узровень цалкам адпавядае навуковаму.

Мікіта Капкоў

Жанчына памерла **пасля родаў**.

Настаўніца сталічнай школы №30 Ганна Якутовіч нарадзіла сваё першае дзіця. Аднак з раддома вярнулася толькі маленькая дачка. Неўзабаве пасля родаў Ганна ўпала ў кому і памерла.

# Страшны выпадак у мінскім раддоме

**«Падарыла дачку на гадавіну»**

Андрэй, муж Ганны, дагэтуль знаходзіцца ў шоку. «Яна была абсалютна здаровая, калі яе забралі ў раддом. І нарадзіла абсалютна здаровую дзяўчынку на гадавіну вяселля — мы пабраліся шлюбам якраз 12 студзеня год таму».

Больш падрабязна пра падзеі месячнай даўніны расказвае Дар'я Ганчарэнка, сваячка Андрэя. «11 студзеня ўвечары ў Ганны адышлі воды. Яна і яе маці выклікалі «хуткую», іх адвезлі ў шосты раддом. Пасля маці з'ехала дадому. Ранкам 12 студзеня Ганна нарадзіла здаровае дзіця. Пасля гэтага яна ні разу не выйшла на сувязь. А ўдзень нам паведамілі, што ў Ганны адкрыўся матачны крывацёк, і яна ўпала ў кому. 15 студзеня яе не стала...»

**Версія медыкаў**

«Супрацоўнікі бальніцы сказалі, што роды прайшлі добра. Калі праз дзве гадзіны ў Ганны пачаўся крывацёк, адразу выклікалі рэанімацыйную брыгаду на чале з намеснікам галоўнага доктара Уладзімірам Сілявам. Яны зрабілі ці дзве, ці тры аперацыі: спачатку выдалілі рэшткі плацэнты. Гэта не спыніла крывацячэнне, таму Ганне выдалілі матку. Узгадвалі і пра трэцюю аперацыю, казалі нешта пра міёму.

Пасля аперацый стан Ганны не палепшыўся, яе падлучылі да апарата штучнага забеспячэння жыццядзейнасці. Чамусьці нам пастаянна нагадвалі: «Галоўнае, каб вытрымала сэрца». 14 студзеня ў Ганны спынілася сэрца. Але медыкі нібыта правялі дыфебрыляцыю і запусцілі яго. 15 студзеня, калі Ганны памерла, патлумачылі, што ў яе не вытрымалі ныркі», — кажа Дар'я.

**«Памерла яшчэ дванаццатага»**

Аднак Дар'я і Андрэй не вераць лекарам. Як медыкі маглі праглядзець масіўны крывацёк, што прывяло да комы і летальнага канца? Дар'я расказвае, што з ёй ананімна падзяліліся акалічнасцямі выпадку з Ганнай: «Ганну, папросту кажучы, не дагледзелі. Хоць яна знаходзілася не ў вельмі добрым стане, яе выкацілі з радавой залы на калідор — адтуль потым парадзіх развозяць па палатах. Відаць, за станам Ганны ніхто не сачыў: якраз ішла перазменка. Схамянуліся праз дзве гадзіны, калі крывастрата дасягнула двух літраў. Менавіта тады ў яе і спынілася сэрца. Сэрцабіццё аднавілі, але на той момант мозг ужо памёр, таму Ганна сканала тады, 12-га».

Крыніца з 8-й бальніцы, дзе Ганна ўлетку ляжала «на захаванні», пацвердзіла «НН» добрае цячэнне яе цяжарнасці. А 12 студзеня ў 6-ты раддом для кансультацыі нібыта быў выкліканы спецыяліст Міністэрства здароўя па гінекалагічных пытаннях, які пасля ўзгадваў, што дактары «праваронілі» крывацёк.

**«Самі спытайце ў вашай жонкі!»**

Дар'я Ганчарэнка ўзгадвае і негатыўны досвед камунікацыі з персаналам бальніцы. «Калі Ганна ўпала ў кому, мы пайшлі да Сілявы. Аднак ён паводзіў сябе абсалютна няветліва, адказаў Андрэю: «Запытайцеся ў свайго дзіцяці і сваёй жонкі самі».

Сям'я Ганны вырашыла давесці справу да канца і знайсці вінаватых у смерці жанчыны і звярнулася да адваката. Просіць не пакідаць справу і калектыў школы №30 г. Мінска, дзе выкладала Ганна. Менавіта яны ўгаварылі Андрэя пайсці на кантакт са СМІ:

«Для нас гэта важна, бо ў нас працуюць маладыя жанчыны, і яны таксама хочуць нарадзіць дзіця, але пасля выпадку з Ганнай проста страшна».

Малое дзіця забралі да сябе бабуля і дзядуля, бацькі Ганны.

На момант падрыхтоўкі публікацыі ўзяць каментары прадстаўнікоў Міністэрства аховы здароўя і Камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама не атрымалася. Галоўны доктар 6-й клінічнай бальніцы Віктар Гурко, пачуўшы пытанне пра былую пацыентку бальніцы, хутка прамовіў, што не можа нічога каментаваць, і кінуў слухаўку.

**Кірыла Хілько**

# Дзеячы культуры выказалі падтрымку арыштаваным фанатам БАТЭ




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Яны вырабілі расцяжкі, аналагічныя тым, з якімі сфатаграфаваліся 23 фаны БАТЭ ў Барысаве. Акрамя таго, творцы трымалі плакат «Фанаты БАТЭ — малайцы».

Удзел узялі пісьменнікі **Наталка Бабіна**, **Міхась Скобла**, **Славамір Адамовіч**, спевакі **Лявон Вольскі** і **Зміцер Вайцюшкевіч**, джазмэн Павел Аракелян, кінасцэнарыст **Андрэй Курэйчык**, бард **Андрэй Мельнікаў**, кінарэжысёры **Вольга Мікалайчык** і **Алег Дашкевіч**, мастак **Міхал Анемпадыстаў**, тэатральны рэжысёр **Валер Мазынскі**, гісторыкі **Анатоль Сідарэвіч**, **Алесь Пашкевіч** і **Алег Гардзіенка**, вэб-дызайнер **Стась Карпаў**, ветэран беларускай журналістыкі **Сяргей Ваганаў** ды іншыя.

Варта адзначыць, што ініцыятыву здымання шырока не разгалошвалі, каб справа не сарвалася.

«Гэта просты жэст чалавечай салідарнасці, — кажа аўтарка рамана «Рыбін горад» Наталля Бабіна. —Я падтрымліваю лозунгі, з якімі выйшлі барысаўскія хлопцы. І спачуваю хлопцам, і захапляюся імі».

«Па-першае, я фанат БАТЭ, — тлумачыць сцэнарыст «Ёлак», «Любові-маркові» і «Вышэй за неба» Андрэй Курэйчык. — Падругое, я як юрыст па першай адукацыі магу сказаць, што тое, як праводзяцца суды ў нашай краіне, — гэта ганьба. Судзіць людзей пастфактум, па фота, праз трэція рукі — так не можа быць проста. Па-трэцяе, людзі маюць права падтрымліваць тое, што ім падабаецца», — кажа Курэйчык.

«Рэпрэсій не баіцеся?» — «Я гатовы да іх, нават пашпарт з сабой узяў», — жартуе культавы рокер Лявон Вольскі.

«Мне баліць за Украіну, а гэтае фота — добры спосаб выказаць сваю занепакоенасць, абурэнне, — тлумачыць аўтар «Народнага альбома» Міхал Анемпадыстаў. — І тое, што адбылося з хлопцамі з Барысава, якія сфатаграфаваліся, — гэта не па-людску. Я допускаю, што за нашую акцыю могуць быць нейкія санкцыі. Шкада было б згубіць час, калі трапіш на 10—15 сутак. Але калі прымаеш рашэнне, становіцца не так страшна».

Нагадаем, што 26 студзеня 23 хлопцы ў Барысаве зняліся з плакатамі «Украіна, мы з табой», «Героям слава».

Барысаўская міліцыя распачала пошук удзельнікаў акцыі. Два хлопцы адбылі адміністратыўны арышт за сваю салідарнасць з Украінай. Астатнія — у вышуку.

## «Захавайце транспарант «Героям слава»

Мне 88 гадоў, і з іх вышыні я хачу сказаць Вам, балельшчыкі БАТЭ з Барысава: не шкадуйце, што сфатаграфаваліся ў падтрымку нашых братоў-украінцаў, у падтрымку свабоды (**№5**). Пяць сутак адсядзелі, а ўспамінаць гэта будзеце ўсё жыццё. І захавайце транспарант «Героям слава». Ён вам і нам яшчэ спатрэбіцца. Як стары чалавек, скажу, што не толькі па законе, і па справядлівасці права на вашым баку.

А міліцэйскаму начальніку з Барысава я нагадаю словы Леніна, якія маё пакаленне ў КПСС усё жыццё вучыла, але не ўсе іх зразумелі. «Свабода — гэта ўсвядомленая неабходнасць». Так-так, «неабходнасць» і «ўсвядомленая». Цяпер гэтыя словы замоўчваюць, нідзе не бачыў, каб узгадвалі, а мы іх вывучалі. І яны правільныя!

Чалавеку трэба есці, трэба піць, стварыць сям'ю. Важна мець магчымасць зарабляць, магчымасць паправіць здароўе. Але наша ўлада не разумее, што свабода — гэта таксама ўсвядомленая неабходнасць. Чалавек мыслячы без яе марнее. Савецкія праваdыры таго не разумелі, ад таго і развалiўся Савецкі Саюз. Беднасць была, убогасць, бо людзі без свабоды не развіваюцца, няма ім радасці, ахвоты працаваць. «Усё ў нас калхознае, усё ў нас маё», — во так было.

Так і наша «вертыкальная сістэма» развaліцца. Толькі не дай бог, каб дзяржава наша, Беларусь, развалілася разам з сістэмай. Вось тут, хлопцы, будзьце пільныя.

**Іван Маеўскі, Мінск**

# Самае папулярнае аўто — «Фальксваген» з-пад Калугі

**«Лады» і ГАЗы** карыстаюцца ўсё меншай папулярнасцю.

З ростам дабрабыту беларусаў продажы новых аўтамабіляў у краіне рэзка выраслі. Паводле дадзеных Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі, за 2013 год дылеры распрадалі 29 тысяч машын, гэта на 40% больш, чым пазалетась.

Беларусы перасаджваюцца на заходнія маркі, хай і расійскай зборкі. Гэта вынікі ўступлення краіны ў Мытны саюз. Пры гэтым уласна расійскія брэнды — ВАЗ, ГАЗ і УАЗ — гэта толькі кожнае пятае аўто.

Найбольшую колькасць машын удалося прадаць дылерам нямецкага канцэрна «Фальксваген» (3913 машын, 13,6% рынку), на другім месцы — французскае «Рэно» (3577; 12,4%). Лідар 2011—2012 гадоў, расійскі вытворца ВАЗ, скаціўся на трэцяе месца (2709; 9,4%). Следам ідуць карэйская «Кіа» і чэшская «Шкода». Адметна, што ўсе гэтыя кампаніі маюць вытворчасць на тэрыторыі Расіі.




**«Фальксваген Пола Седан»**

Вытворчасць «Пола», легендарнай мадэлі нямецкага аўтаканцэрна, пачалася яшчэ ў 1975 годзе. Цяперашнія новыя машыны адносяцца да пятага пакалення.

Мадэль «Пола Седан» створаная для рынкаў «трэцяга свету» — Індыі, Бразіліі, Кітая. Расійская версія збіраецца на заводзе пад Калугай. Менавіта гэтае аўто прадаецца і ў Беларусі.

Самая танная мадыфікацыя — Polo G Trendline. Мае пярэдні прывад, бензінавы рухавік 1,6 л і 5-прыступкавую механічную каробку перадач. Расход паліва — 8,7 л/100 км у горадзе і 5,1 л/100 км на трасе. Максімальная хуткасць — 190 км/г. Да 100 км/г разганяецца за 10,5 с.

Цана такога аўто — $14 500.

**Самыя папулярныя мадэлі ў Беларусі (па продажах новых машын)***

2007 — «Дачыя Логан»
2008 — «Фальксваген Пасат»
2009 — «Таёта Карола»
2010 — «Дэу Мацiз»
2011 — «Дачыя Логан»
2012 — «Лада Прыёра»
2013 — «Фальксваген Пола»

* звесткі Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі




А што ж беларускія аўто? Кітайска-беларускаму праекту Geely удалося рэалізаваць толькі 407 аўтамабіляў, гэта 19-е месца на рынку.

Што да канкрэтных мадэляў, то ў гэтым рэйтынгу таксама змяніўся лідар. Замест «Лады Прыёры» беларусы сталі купляць «Фальксваген Пола Седан» (глядзі ўрэзку). Продажы нямецкага аўтамабіля з-пад Калугі выраслі ў 2,5 разу і дасягнулі 2029 машын.

На другім і трэцім месцах знаходзяцца дзве мадэлі «Рэно-Дачыя»: «Сандэру» набылі 1434 купцы, а «Дастэр» — 1375.

**Ягор Марціновіч**

# Мяняю трохпакаёўку ў Магілёве на маласямейку ў Мінску

Колькі каштуе **жыллё ў рэгіёнах**?

Сярэдні кошт квадратнага метра жылля ў Мінску на канец 2013 года склаў $1726. Гэта афіцыйная статыстыка рэальных угодаў.

Пры гэтым маленькія кватэры нашмат даражэйшыя. Маласямейкі агульнай плошчай 21—22 м² у сталіцы каштуюць ад $55 тысяч. І гэта за пяціметровую кухню і пакойчык на 11—12 м²!

Партал Realt.by параўнаў цэны на нерухомасць, якія сфарміраваліся ў рэгіёнах.

Самае дарагое жыллё за МКАДам — у Віцебску. Увосень горад першым у краіне перадолеў сімвалічную мяжу ў $1000, прычым за год кватэры падаражэлі на 31% — гэта таксама максімальная лічба сярод абласных цэнтраў.

Брэст быў самым дарагім горадам краіны (апроч Мінска) у 2012-м. Дый цяпер попыт на кватэры завялікі. Рынак нерухомасці ў Брэсце становіцца ўсё больш актыўным, за год колькасць угодаў вырасла на траціну.

Гомель і Гродна цяпер трымаюцца фактычна на адным цэнавым узроўні, хоць яшчэ пазалетась нерухомасць у Гродне была самай таннай сярод абласных цэнтраў. Заходні горад адметны яшчэ і тым, што яго жыхары не абмяжоўваюць сябе ў плошчы. Найлепей распрадаюцца двухпакаёўкі, а аднапакаёўкі нават менш папулярныя за вялікія кватэры (ад трох пакояў).

Магілёў па цэнах на кватэры адстаў ад іншых абласных цэнтраў, аднак і ў ім сярэдні метр ужо каштуе больш за $900.




Тамтэйшыя трохпакаёўкі можна набыць за $50—55 тысяч — танней за мінскую маласямейку. А трохі дадаўшы, можна купіць і чатырохпакаёўку.

У буйных раённых цэнтрах кватэры даражэюць тымі ж шалёнымі тэмпамі. Напрыклад, у Салігорску сярэдняя цана толькі на $1 адстае ад Магілёва. А ў Маладзечне за квадратны метр просяць нават больш — $942. Адбіваецца адносная блізкасць да Мінска. Падбіраюцца ўсё бліжэй да абласных цэнтраў і Барысаў з Наваполацкам і Полацкам.

**ЯМ**

## Сцісла

### Крэдытаў без даведак аб даходах не будзе?

Паводле інфармацыі прыватных банкаў, Нацбанк плануе забараніць выдачу крэдытаў насельніцтву без даведак аб даходах. Гэта звязана з планамі па ўтаймаванні інфляцыі. Таксама будзе зменшаны і спажывецкі імпарт. Па стане на пачатак года доўг насельніцтва па спажывецкіх крэдытах перавысіў $1,5 мільярда.

### Праелі яшчэ $430 мільёнаў

На столькі зменшыліся золатавалютныя рэзервы за студзень 2014. Цяпер запасы складаюць $6,22 мільярда, гэта найменшы ўзровень са снежня 2011 года. Прычынай стала пагашэнне валютных пазыкаў.

### Зарабляем на Мытным саюзе

Краіны Гандлёвага саюза збіраюць імпартныя пошліны ў адну скарбонку, а пасля размяркоўваюць па вызначаных раней каэфіцыентах. Летась Беларусь атрымала на $100 мільёнаў больш, чым аддала. Расія зарабіла на Мытным саюзе каля $150 мільёнаў. Адпаведна, Казахстан страціў $250 мільёнаў.

### У цэментных заводаў толькі страты

Прадпрыемствы цэментнай галіны Беларусі летась атрымалі страты памерам $25 мільёнаў. Заводы былі вымушаныя браць крэдыты для разліку па энерганосьбітах і для выплаты заработнай платы, маючы пры гэтым яшчэ і $95 мільёнаў запазычанасці, набранай падчас мадэрнізацыі.

### Кіргізы не ідуць у Мытны саюз: няма грошай

Для ўступлення ў арганізацыю Кыргызстану патрэбна каля $400 мільёнаў для будаўніцтва дарог і стварэння іншай інфраструктуры. Такіх грошай у кіргізаў няма, яны спадзяюцца атрымаць дапамогу ў Расіі. У такім выпадку краіна можа ўступіць у Мытны саюз у 2015 годзе.

**ЯМ**

# «Яе хавалі, як маладую — у вясельным строі»

Дзяўчына вярталася з царквы, калі яе збіла аўто.

Чарговая трагедыя на пешаходным пераходзе здарылася ў Мінску. 4 лютага пад коламі легкавіка загінула 31-гадовая Святлана Уласавец.

Каля парку Дружбы народаў яна пераходзіла вуліцу Багдановіча на зялёнае святло, услед за ёй рушыла яшчэ адна жанчына. Раптам на пешаходны пераход выскачыла машына, кіроўца нават не думаў спыняцца. Аўто падбіла Святлану, яна загінула на месцы. А кіроўца тым часам зноў набраў хуткасць, звярнуў на суседнюю вуліцу Кульман і знік.

Дзе шукаць яго ў начным горадзе? Пешаход, якая ішла за Святланай, хоць і моцна перапалохалася, здолела запомніць нумар машыны.

Праз некалькі гадзін аўто знайшлі ў суседніх дварах. У Toyota Avensis з віцебскімі нумарамі была пашкоджаная фара і трэснула лабавое шкло. Кіроўца, 28-гадовы жыхар Наваполацка, уцёк. Яго абвясцілі ў вышук.

Паводле інфармацыі Onliner.by, кіроўца паспеў з'ехаць з краіны. Аварыя адбылася ў 0:10, а ўжо ўраніцы таго ж дня ён быў у Смаленску. Што адбылося пасля? Ці то замучыла сумленне, ці то ўзважыў магчымыя наступствы, але праз некалькі дзён ён вярнуўся ў Беларусь і здаўся ў міліцыю. Кіроўца ўзяты пад варту, суда ён будзе чакаць у ізалятары. Заведзеная крымінальная справа за парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека. Кіроўцу пагражае да пяці гадоў зняволення.

Загінулая жанчына ў сталіцу пераехала год назад. Святлана паходзіла з Піншчыны, але да пераезду працавала ў Брэсце. Адным з першых, з кім яна пазнаёмілася, быў Дзмітрый Смаляк.

«Мы год таму разам спектакль ставілі. Мая жонка — рэжысёрка, а Святлана грала ў ім ролю. Яна, дарэчы, удзельнічала ў стварэнні касцюмаў, лялек — гэта быў лялечны спектакль. Пасля ездзілі з ім па дзіцячых дамах», — кажа Дзмітрый. Былі ў жанчыны і іншыя пастаноўкі. У Мінску яна працавала швачкай, але бачыла сябе на тэатральнай сцэне.

«Яна была харызматычнай дзяўчынай. Жонка заўважыла, што ў Светы ёсць акцёрскі талент, хоць яна ўпершыню грала ў нашым спектаклі. Але было бачна, што ёй падабалася. І яна хацела развівацца ў гэтым кірунку — збіралася нават звярнуцца ў лялечны тэатр», — працягвае Дзмітрый.

Гэта быў праект пратэстанцкай царквы «Новае жыццё». Святлана ж была прыхаджанкай іншай царквы — «Божай Ласкі». У тую ноч яна і вярталася з малітвы. Яе падвезлі да прыпынку на вуліцы Багдановіча — яна непадалёк здымала кватэру. Да дома заставаліся фактычна лічаныя метры, калі трапіла пад аўто.

«Яна мая аднакласніца. Была добрым, светлым чалавекам, жыццярадаснай. Апошні раз я бачыла яе ўлетку. Яна казала, што задаволеная жыццём, знайшла добрую працу, мае шмат сяброў. Ніколі б не падумала, што так хутка абарвецца жыццё... Бо яна, відаць, як і ўсе дзяўчаты, марыла пра сям'ю і дзяцей. Гэта трагедыя. Я была на пахаванні, такую прыгажуню хавалі ў вясельным строі, яна была ўсё роўна як лялька. Смуткуем усе», — расказала знаёмая загінулай, яе цёзка.


З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК

**Збіў, але завёз у бальніцу**

Ранкам 5 лютага ў Мінску на праспекце Пушкіна пад колы трапіла жанчына. Кіроўца адвёз яе ў бальніцу, але там не пакінуў сваіх звестак. У ДАІ звярнуўся толькі пасля таго, як яго партрэт з камеры відэаназірання ў бальніцы размясцілі ў інтэрнэце.

**Сяргей Макарэвіч**

## Гарадзенец выдаваў сябе за пляменніка Біла Клінтана і святара з Парыжа

Махляр у чатырнаццаты раз адправіўся за краты.

35-гадовы Канстанцін Мураўёў цяпер правядзе ў турме шэсць гадоў. Вядомасць сярод праваахоўнікаў ён атрымаў за сваю манеру пераўвасабляцца: ён прыдумляў сабе ролі, у якіх затым махляваў. Ён «пабываў» святаром з Парыжа, супрацоўнікам КДБ, работнікам аблвыканкама, дырэктарам фірмы...

Артыстычны талент Мураёўва выявіўся яшчэ ў школе ў пачатку 1990-х. Ён вучыўся ў дзявятым класе, калі на базе прэстыжнай школы ўмудрыўся арганізаваць платныя курсы ўдасканалення замежнай мовы. Па яго запрашэнні на заняткі сабраліся людзі з вышэйшай адукацыяй. Сам непаўнагадовы ілжэнастаўнік тады ўсё «ўлагодзіў» слязамі, паабяцаўшы больш ніколі не займацца такой самадзейнасцю. Аднойчы напярэдадні 8 сакавіка ён абрабаваў кветкавы шапік і падарыў кветкі настаўнікам.

У 1990-я гады, калі зарплата ў $25 лічылася прыстойнай, ён сярод белага дня вывез з гродзенскай крамы дэфіцытных прадуктаў на $500. З выгляду інтэлігентны малады чалавек пры гальштуку з'явіўся на таксі і прадставіўся кіраўніцтву адной з крамаў абласнога цэнтра работнікам салідней арганізацыі. Сказаў, што трэба на высокім узроўні прыняць замежную дэлегацыю. Яму не было і васямнаццаці, калі ён атрымаў першы тэрмін.

Пазней Мураўёў «натаптаў» у Баранавічах, Слоніме, Ваўкавыску, Бабруйску... Арганізатарам «Славянскага базару» ў Віцебску паведаміў, што едзе пляменнік Біла Клінтана і трэба сустрэць па найвышэйшым разрадзе. Яго і сустрэла міліцыя.

Некалькі гадоў таму, вызваліўшыся ўмоўна-датэрмінова, ён прыехаў у дом ксяндза ў прыгарадзе Гродна. У мясцовым храме якраз ішло святочнае набажэнства, а ў доме святара жанчыны гатавалі абед. Адна з іх папрасіла госця з Парыжа паспавядаць яе. Ілжэсвятар спавядаў жанчыну, а пасля, застаўшыся ў пакоі адзін, дастаў з жаночай сумачкі $100 і 100 тысяч рублёў, прыхапіў з дома дарагую парфуму, станкі для галення, пачак кавы, каробку шакаладных цукерак.

А ў Мінску падчас музычнага фестывалю з удзелам Юрыя Башмета ён прадставіўся ў філармоніі начальнікам службы бяспекі вядомага музыкі, сказаў, што прыехаў, каб агледзець памяшканні. Яму перадалі ключы і праводзілі да дзвярэй. Ён скраў сумачку госці з Германіі і кашалёк музыкі з Расіі.

Ці будзе чатырнаццатая судзімасць для Косці-рэцыдывіста апошняй, пакажа час.

**Паводле «Гродзенскай праўды»**

## Дваццаць удараў нажом

Забіў суседку, а затым спрабаваў забіць і сябе.

Завершана расследаванне забойства былога члена Цэнтрвыбаркама Святланы Хіневіч. Жанчына з'яўлялася таксама начальнікам аддзела кадраў на «Крышталі».

Яе знайшлі забітай у жніўні 2013-га ва ўласнай кватэры. Па падазрэнні ў забойстве затрымалі 34-гадовага суседа-наркамана. Ён знаходзіўся ў суседняй кватэры ў непрытомным стане з мноствамі ранаў — спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Па словах прадстаўніка УСК па Мінску Аляксандра Герасімава, мужчына быў п'яны і пад наркотыкамі. А Хіневіч ударыў нажом не менш за дваццаць разоў. Забойства мела выключна бытавы характар і не звязана з дзейнасцю жанчыны.

Мінчука абвінавачваюць у забойстве, здзейсненым з асаблівай жорсткасцю з хуліганскіх памкненняў. За гэта прадугледжана пакаранне аж да расстрэлу. Акрамя таго, яго будуць судзіць за незаконнае набыццё, захоўванне і перавозку псіхатропных рэчываў.



**СМ**

### Вышук



**Шукаюць ахвяраў**

Чалавека на фота падазраюць у гвалтоўных дзеяннях сэксуальнага характару. Эпізод тыдня 2007 года. Але следчыя не выключаюць, што ён можа мець дачыненне і да іншых злачынстваў. Калі нехта пацярпеў ад гэтага мужчыны, звяртайцеся на: (033) 333-67-20, (017) 395-75-67.

### Сцісла

**Дзесяцікласнік памёр на фізкультуры**

Трагедыя здарылася ў сталічнай школе №147. Калі прыехала «хуткая», хлопец быў ужо мёртвы. Высвятляецца прычына смерці. Супрацьпаказанняў для заняткаў спортам у яго не было.

**Прадаў унітаз, каб купіць дозу**

21-гадовы мінчук пачаў прадаваць хатнюю тэхніку, каб на атрыманыя грошы купіць дозу спайсу (сумесі для палення). Так з кватэры «выехалі» пыласос, пральная машына і нават унітаз. Калі мінчука злавілі з наркатой, яму давялося адправіцца за краты. Але пасля вызвалення ён узяўся за старое: скраў у маці фотаапарат. Праводзіцца праверка.

**П'яны расеец на BMW уцякаў па Гродне**

Уседарожнік з расійскімі нумарамі пятляў па дарозе, калі яго заўважылі супрацоўнікі ДАІ. Сігнал спыніцца ён праігнараваў і толькі дадаў хуткасці, парушаючы ПДР. Затрымалі BMW X5 на выездзе з Гродна. Аказалася, за стырном быў 24-гадовы калінінградзец, які пасля начной п'янкі ранкам пахмяліўся і сеў за руль: хацеў развезці па хатах дзяўчат-сабутэльніц. Яго аштрафавалі на 13 мільёнаў рублёў.

**Хуліган закінуў пенсіянера ў смецніцу**

62-гадовы берасцеец у кантэйнеры для смецця шукаў недаедкі для свайго ката, а 19-гадовы хлопец вырашыў пахуліганіць. Ён за ногі кульнуў пенсіянера ў смецніцу, а ягоны сябар зняў гэта на мабільнік.

**Забыліся ў гіпермаркеце $10 тысяч**

У Мінску на стаянцы каля аднаго з гіпермаркетаў сям'я забыла партфель з дакументамі і месячнай выручкай мужа-прадпрымальніка — $10 тысяч. Грошы мужчына меркаваў здаць у банк. Успомнілі пра згубу толькі дома. Але калі вярнуліся, партфеля не было. На відэа з камер убачылі, што яго забраў кіроўца чорнага BMW. А калі ў Фаніпалі міліцыя адшукала мужчыну з BMW, ён заявіў, што ў яго тыя 10 тысяч долараў таксама скралі ў той жа вечар.

**Леў адкусіў руку работніцы заапарку**

Кухарка Гродзенскага заапарку вырашыла пагладзіць льва. Жанчына пералезла цераз агароджу і прасунулася паміж жалезных прутоў вальера. Драпежнік ухапіўся за руку. У шпіталі ёй ампутавалі канцавіну на ўзроўні правага пляча.

**КМ**

# Такім будзе стадыён «Дынама»



Стадыён «Дынама» — галоўная спартыўная адметнасць сталіцы. Пабудаваны ў 1934 на яўрэйскіх могілках, ён быў разбураны падчас вайны і адноўлены праз дзесяць гадоў пасля вызвалення. У лістападзе 2012-га яго закрылі на чарговую рэканструкцыю. Улады аб'явілі міжнародны конкурс, на якім перамог нямецкі праект. Ён прадугледжваў, што мінскі стадыён стане выключна футбольным. Але пазней Аляксандр Лукашэнка загадаў адмовіцца ад такой канцэпцыі. З улікам яго ідэй быў распрацаваны канчатковы праект рэканструкцыі.

Выгляд стадыёна з усходу застанецца звыклым. Аркада стадыёна з боку вуліцы Ульянаўскай і цэнтральная арка на вуліцы Кірава будуць захаваныя. Застанецца і сквер ля «Дынама». А вось выгляд стадыёна з захаду зменіцца да непазнавальнасці. Бо «Дынама» цяпер будзе мець іншыя функцыі: ён стане галоўным лёгкаатлетычным комплексам краіны.

На стадыёне будуць дэмантаваныя старыя мачты асвятлення, якія заменяць новымі, з дадатковай крыніцай электраэнергіі. Колькасць глядацкіх месцаў зменшыцца да 20 тысяч. 70% з іх будуць схаваныя навесам ад дажджу. У падтрыбунным памяшканні размесцяць фізкультурна-аздараўленчы комплекс, сямейна-забаўляльны цэнтр, крамы, офісы, кафэ, бары і рэстараны.

На «Дынама» з'явіцца сектар для кідання снарадаў, пляцоўкі для скачкоў, бегавы трэк даўжынёй 400 метраў на 9 дарожак, а таксама дарожкі для бегу на 100 метраў і бегу з перашкодамі на 110 метраў. Пасля рэканструкцыі на стадыёне можна будзе праводзіць чэмпіянаты свету па лёгкай атлетыцы і Алімпійскія гульні.

**Мікіта Капкоў**

# Ролю ў фільме «Авель» прапаноўваюць Шэран Стоўн

Праз свае крыніцы ў здымачнай групе «Наша Ніва» даведалася, што на галоўную жаночую ролю ў фільме «Авель» запрошана актрыса Шэран Стоўн. Гэта зорка «Асноўнага інстынкту», «Казіно» і «Зламаных кветак».

Менавіта яна і стане той самай зоркай класа А, прысутнасць якой была абавязковай умовай для нацыянальнага кінапраекта. За некалькі здымачных дзён актрысе прапануюць трохі болей за паўмільёна даляраў. Кантракт яшчэ не падпісаны.

Прадзюсар фільма Сяргей Ждановіч пакуль ухіляецца ад дакладнага адказу.


WWW.GOEFON.RU

«У нас яшчэ не абрана актрыса», — кажа ён.

Варта сказаць, што Шэран Стоўн намінавалася на Оскар за ролю ў «Казіно» Марціна Скарсэзэ. Аднак апошнім часам кар'ера 56-гадовай актрысы пайшла на спад. У 2007 годзе Шэран Стоўн атрымала «Залатую маліну» як найгоршая актрыса года, засвяціўшыся ў расійскім фільме «Каханне ў вялікім горадзе — 3».

Паводле нашай інфармацыі, Шэран Стоўн хочуць аддаць ролю амерыканскай журналісткі Сары, якая едзе ў Беларусь, каб папярэдзіць некалькі гучных злачынстваў.

Спачатку на ролю Сары планавалі пазваць Мілу Ёвавіч, аднак яна запрасіла такі ганарар, які стваральнікі «Авеля» не змаглі сабе дазволіць.

**Юрась Ускоў**

## Вядоўца «Панарамы» сышла на жоўты тэлеканал LifeNews

Тамсама ўладкавалася і вядучая навінаў на СТБ.

Скандальны расійскі партал LifeNews займеў свой тэлеэфір. Сярод ягоных вядоўцаў блогер d-zholik знайшоў дзвюх беларусак.

Вікторыя Язерская да нядаўняга часу была вядоўцай «Навінаў» і «Панарамы» на «Беларусь-1». У 2011-м яна скончыла Універсітэт культуры і мастацтваў па спецыяльнасці «тэатральная рэжысура». Старонка з інфармацыяй пра дзяўчыну ўжо знікла з сайта Белтэлерадыёкампаніі.

Апроч таго, на LifeNews цяпер працуе былая вядоўца навінаў «24 гадзіны» на СТБ Алена Міхалоўская. Некаторы час яна таксама працавала на БТ.

**Ягор Марціновіч**



Алена Міхайлоўская.



Вікторыя Язерская.



**Камертон Сяргея Ваганава**

# У пошуках крыжа

9 лютага 2009 Валянцін Тарас адзначаў 79-ы дзень народзінаў.

Напярэдадні ён папрасіў з'ездзіць з ім на Паўночныя могілкі, наведаць магілы сяброў: Аляксандра Дракахруста і ягонай жонкі, журналісткі Дзіны Манаевай. Зіма непазнавальна сказіла могілкавы пейзаж. І хаця з лістапада, калі хавалі Аляксандра Дракахруста, прайшло ўсяго тры месяцы, давялося шукаць. Шукалі цяжка, па калена ў сумётах. Тарас задыхаўся. Я не на жарт спалохаўся за яго, нават пашкадаваў, што не стрымаў ад паездкі. Тым больш, што асаблівай нагоды, каб сярод зімы наведваць магілы сяброў, не было.

Толькі ўвечары 9-га, калі нешматлікія госці, у асноўным, блізкія сваякі, сабраліся на ўтульнай кухні за цеснаватым святочным сталом, я зразумеў, чаму Тарас паехаў на могілкі: адзначаць дзень свайго нараджэння без тых, з кім адзначаў яго цягам дзясяткаў гадоў, ён не мог. Але вось наведаў і нібыта адрадзіўся: увесь вечар сыпаў жартамі, чытаў свае даўнія вершы, быў шчодры на ўспаміны і тосты...

13 лютага Тарас памёр.

Не памятаю, у каторы з тых трох, паміж жыццём і смерцю, лютаўскіх дзён ён нечакана згадаў пра танкі: «А вы ведаеце, Сярожа, што ўсё XX стагоддзе прайшло пад знакам танкаў? Вось, — ён выцягнуў са старой друкаркі апошнюю паперчыну, дадаў да астатніх, — пачытайце, тут пра танкі...»

Вайна не адпускала яго.

З дзвюх плыняў, з дзвюх крыніц нарадзілася літаратурная і маральная з'ява, што носіць імя Валянціна Тараса, — вайна і сяброўства.

Сяброўства, народжанае вайной.

Вайной з найвялікшым злом — нямецкім нацызмам.

Вайной з найвялікшым злом — савецкім сталінізмам.

Дзве вайны, два ворагі... Але зброя адна — Сумленне.

Каб зразумець гэта, перагартайце старонкі ягоных мемуараў «На выспе ўспамінаў» — насамрэч шчымлівай і пранізліва-самаахвярнай споведзі. Разам з быкаўскай «Доўгай дарогай дадому» яна стварае і захоўвае непаўторны свет прамінулага часу.

Так, менавіта разам, а не побач.

Разам, а не побач — з Алесем Адамовічам, Мікалаем Крукоўскім, Навумам Кіслікам, Алегам Сурскім, Барысам Заборавым, Міхасём Стральцовым... — выдзіраліся яны з кіпцюроў сталінізму, абуджалі, адраджалі і напаўнялі айчынным беларускім дыханнем ідэю гуманізму — стрыжнявую, з крыві і гразі войнаў і рэвалюцый, з супраціву злачынным праявам таталітарызму, ідэю XX стагоддзя. І справа тут не ў маштабах талентаў, не ў розніцы ва ўзростах, жыццёвым досведзе і творчых занятках.

## Пяць гадоў таму сышоў Валянцін Тарас



Справа ў тым, што на «доўгай дарозе дадому» творцы, з'яднаныя пакутлівым пошукам адказаў на пякучыя пытанні Часу, становяцца Пакаленнем.

Сёння ў Беларусі шмат таленавітых, высокаадукаваных, высокаінтэлектуальных творцаў — літаратараў, філосафаў, палітолагаў...

Але Пакалення няма. Ёсць тусоўкі.

Я вось думаю: чаму тыя ж Быкаў, Адамовіч, Кіслік прынялі ў сваё сяброўскае кола нашмат маладзейшага Тараса? Толькі з-за ягонага партызанскага медаля?

Так, безумоўна, і з-за медаля, з-за апаленага вайной малалецтва. Але не толькі.

З-за таленту?

Так, безумоўна, і з-за таленту. Але не толькі.

Яны адчулі ў ім творцу, які не жыве з гатовага, не карыстаецца палёгкай здабытага, а літаратурную справу перадусім лічыць справай маральнай. І ў гэтым сэнсе цягне на Галгофу Часу свой крыж.

Крыж, які злучае пакаленні.

Сёння замест цяжкай дарогі на Галгофу — прага Алімпа, замест крыжа — кол.

Дзіўнаватая і страшнаватая з'ява нарадзілася ў гэтыя пяць гадоў, што мінулі з таго дня, калі Тарас сышоў з жыцця: забіты ў савецкае мінулае кол не вызваліў ад яго, а, насуперак дэклараваным чаканням, увагнаў у пагрозу паўтору. Мо нават яшчэ горшага...

Магчыма, гэта мае суб'ектыўнае адчуванне, але раней, калі Валянцін Тарас яшчэ быў жывы і ці не апошні ўвасабляў згаданае Пакаленне, здавалася, што ягоны, таго пакалення, крыж злучыць XX і XXI стагоддзі.

Сёння паміж стагоддзямі — прорва.

Бо мінулага не выракаюцца, тым больш — яго не забіваюць. Мінулае пераадольваюць. Найперш у саміх сабе...

Так рабіў Валянцін Тарас — Пісьменнік, Паэт, Публіцыст, Грамадзянін.

Чалавек, што быў раскрыжаваны на вайне і сяброўстве.

Вось толькі мала хто з народжаных на мяжы стагоддзяў ведае, дзе, на якіх скажоных сёняшнімі завеямі могілках, шукаць гэты крыж.

*kamerton_41@mail.ru*

# Катэдж распусты

Шакуючыя падрабязнасці **«справы педафілаў».**

6 лютага ў Мінску пачаўся суд над былым кіраўніком Міжнароднага дабрачыннага грамадскага аб'яднання «У дапамогу дзецям-сіротам» Вячаславам Давыдовічам. Яго абвінавачваюць у незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці, звязанай з атрыманнем прыбытку ў асабліва буйным памеры. Бізнэсмен, сцвярджае следства, зарабіў 966 мільёнаў рублёў, здаючы нежылыя памяшканні пад офісы без рэгістрацыі.

Давыдовіч быў уласнікам дома на вуліцы Мікалаеўскай у раёне Зацань у Мінску. Гэта адзін з самых вялікіх катэджаў у краіне — плошчай больш за 1700 м². Вясной 2013 ён перапісаў дом на сына.

Як паказала расследаванне Tut.by, бізнэсмен аказаўся звязаным з фігурантамі гучнай «справы аб педафілах».



**Той самы катэдж на вуліцы Мікалаеўскай.**

## Кіраўнік дабрачыннага аб'яднання

Што за «справа педафілаў»? Спакушальнікамі хлопчыкаў аказаліся два таварышы: 60-гадовы К., ужо асуджаны на 17 гадоў турмы за педафілію, і 43-гадовы Алег Каменда, які цяпер чакае новага суда. Абодва фігуранты былі тройчы судзімыя за распусныя дзеянні з непаўналетнімі і іншыя злачынствы, але з 2002 па 2010 у поле зроку праваахоўнікаў не траплялі. Абодва шукалі новых ахвяр на вуліцах сталіцы, а ў цёплы час года ездзілі па краіне, заводзячы знаёмствы з вясковай моладдзю. Падлеткам прадстаўляліся трэнерамі па веласпорце і футболе, запрашалі запісацца ў секцыю. У Мінску ў іх была своеасаблівая «майстэрня» — таксама ў мікрараёне Зацань, куды яны і заваблівалі дзяцей.

Для большай пераканаўчасці на сценах у майстэрні развесілі некалькі ровараў і плакатаў і купілі спартыўную форму — для сябе сіняга колеру, для сваіх падапечных — ружовага. Такія заняткі не выклікалі падазрэнняў нават у бацькоў, некаторыя з іх самі прыводзілі дзяцей на «трэніроўкі». Пасля двое сяброў не змаглі падзяліць паміж сабой аднаго з хлопчыкаў. У 2008 годзе яны разарвалі адносіны. Канфлікт прывёў да таго, што яны падзялілі паміж сабой раёны сталіцы, не прэтэндуючы на чужую тэрыторыю.

## Каб дзеткі не падарваліся

Яшчэ адной падставай для знаёмства было прапанаваць хлапчукам падзарабіць на будоўлі: «Алег Каменда прыводзіў іх да гаспадара дома. Як высветлілася, той даваў ім працу і, каб дзеткі не падарваліся,

**Давыдовіч атрымаў 4 гады калоніі**

Суд Цэнтральнага раёна Мінска ў аўторак абвясціў прысуд Вячаславу Давыдавічу.Ён быў прызнаны вінаватым па ч. 2 арт. 233 Крымінальнага кодэкса ( «Прадпрымальніцкая дзейнасць без рэгістрацыі з атрыманнем прыбытку ў асабліва буйным памеры») і асуджаны на 4 гады ў калоніі агульнага рэжыму з пазбаўленнем права займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю на працягу 5 гадоў. Суд пастанавіў спагнаць у бюджэт 966 млн рублёў шкоды і 48 млн рублёў (дзяржпошліна).



**Вячаслаў Давыдовіч.**

правяраў з «добрымі мэтамі» ў іх пахвінную вобласць. Казаў ім, маўляў, трэба паглядзець, каб кілы не было», — расказваюць у галоўным упраўленні крымінальнага вышуку МУС. Гаспадаром дома быў Вячаслаў Давыдовіч.

Усе трое — Давыдовіч, Каменда і К. — выхадцы з дзіцячых дамоў, прычым двое з іх (Каменда і Давыдовіч) выхоўваліся ў адных і тых жа дзіцячых дамах на Брэстчыне.

Сёння хлопцам, якія траплялі ў катэдж да Вячаслава Давыдовіча «на будоўлю», ужо па 19—20 гадоў, размаўляць на тэму дамаганняў яны не прагнуць: у многіх ужо адносіны, сем'і.

Андрэй [імя зменена] у катэджы ў Давыдовіча працаваў некалькі гадоў, пачынаючы з 2007. Упершыню ён туды трапіў, калі яму было ўсяго 14.

«Маці піла, нас з сястрой забралі ў дзіцячы дом, а калі выйшлі, сябры расказалі, што ў Давыдовіча можна атрымаць працу. Я ў яго апалубкі выстаўляў, заліваў, капаў. Да ста хлопцаў магло працаваць часам. <...> У доме Давыдовіча тусаваліся ўсякія бізнэсмены, ды шмат хто. Я часта з імі там сядзеў, размаўляў, — кажа Андрэй. — Часта Давыдовіч прывозіў нейкіх кадэтаў (з Ястрамбельскай школы-інтэрната. — Аўтарка). Прычым вось стаім, працуем, Іванавіч (хлопцы звычайна называлі Давыдовіча проста па імені па бацьку. — Аўтарка) падыходзіць і кажа: «Ты стой, працуй. А ты — са мной». І адводзіў хлопцаў кудысьці ў дом па адным. Бывала, па паўгадзіны з ім сам-насам пацаны праводзілі. Мы ўжо думалі: што яны там робяць?! Потым і мяне паклікаў. Казаў спачатку, што мы можам надарвацца на будоўлі, таму яму трэба мяне памацаць, залазіў у штаны, чапаў за я**ы...» Непасрэдна ў палавы кантакт, запэўнівае Андрэй, з Давыдовічам ён не ўступаў.

## А па законе ўсё хітра

У МУС маюць інфармацыю аб сэксуальных кантактах Вячаслава Давыдовіча з непаўналетнімі, аднак крымінальная справа па дадзеных фактах не заводзілася. Паводле заканадаўства, крымінальная адказнасць за ўступленне ў інтымную сувязь з падлеткамі, якія дасягнулі 16-гадовага ўзросту, не прадугледжана. А насілля не выявілі.

З Алегам Камендам Андрэй і некалькі яго сяброў пазнаёміліся прыкладна ў 2009-м. Алег быў у добрых адносінах з Давыдовічам, шмат разоў заставаўся начаваць. «Алег, калі ў вышуку быў, у Давыдовіча хаваўся. Такі светленькі, маленькі, у акулярах... Мы з ім былі ў яго майстэрні. Прыходзілі, ён даставаў віно, потым нейкія слоічкі пастаянна ставіў, казаў, можна сперму здаваць. Прэзерватывы даставаў, віягру, чапляўся, усіх нас за я**ы чапаў, у штаны лез. Размовы ў асноўным пра сэкс вёў. Пытаўся, якой даўжыні нашы «сябры», прапаноўваў зняць штаны і памерацца», — кажа Андрэй.

## «Хадзіў са сшыткамі»

На адным з допытаў у аператыўнікаў крымінальнага вышуку Алег Каменда заявіў, што яго самога калісьці гвалтавалі. У дзіцячым доме.

У Ястрамбельскай школе-інтэрнаце, ператворанай у Брэсцкае абласное кадэцкае вучылішча, некаторыя выхавальнікі выдатна памятаюць і аднаго, і другога выпускніка. Пры гэтым калі пра Каменду яны адгукаюцца як пра дзіўнага хлопца, то Вячаслаў Давыдовіч для іх, вобразна кажучы, бог і заступнік.

«Каменда хадзіў з кніжкамі, сшыткамі, газетамі. Вучыўся нядрэнна, на 4—5. Казаў, што яго мара — стаць пракурорам. Часта паўтараў: «Вось стану пракурорам і ўсіх вас пасаджу!» Увогуле, ён артыст. Умеў галасы падрабляць — Лявонцьева, Алу Пугачову спяваў. Пасля выпускнога ён тут з'яўляўся, хадзіў усё з папкай, сшыткамі. (Паводле версіі аператыўнікаў, Каменда вёў спецыяльныя дзённікі, куды запісваў імёны сваіх ахвяр. — **Аўтарка**.) Мы ўсе думалі, што ж там у гэтай папцы!» — кажа выхавальніца Ястрамбельскай школы-інтэрната Людміла Бабко.

Яна прапрацавала ў Ястрамбельскім інтэрнаце 38 гадоў. Давыдовіча памятае выдатна, лічыць сябе яго мамай, бо родная маці ад яго адвярнулася, калі ён быў зусім маленькім.

«Давыдовіч — гэта мой першы выпуск. Ён прыехаў да нас у 6 клас з Шарашова. Скончыў Слава наш інтэрнат у 1981 годзе. А Алег Каменда скончыў у 1985-м. Некалькі гадоў хлопчыкі тут выхоўваліся адначасова, але ніколі не размаўлялі асабліва. Слава ж быў старэйшы», — кажа Людміла Віктараўна.

## Міліцыянер даслужыўся

Вячаслава Давыдовіча жанчына можа ахарактарызаваць «толькі добра»: «Гэтае дзіця расло, абапіраючыся на маю сям'ю. Я яму давярала свайго маленькага сына. Ён часта звяртаўся да нас, я тут побач жыла. Гэта была яго аддушына, таму што яны прыйшлі ў новы калектыў (з папярэдняга дзіцячага дома), трэба было прыцірацца. А ў яго нікога не было. Слава вельмі любіў чытаць, фотасправай займаўся. За кнігі гатовы быў усё аддаць. Пасля заканчэння ён сустрэў Таню, ажаніўся з ёй і кахаў яе больш за жыццё. Цяпер яны ў разводзе».

Пасля дзіцячага дома Слава Давыдовіч паступіў у Слуцкае вучылішча, потым пайшоў у Вышэйшую школу міліцыі, расказвае далей яго былая выхавальніца. Два гады адвучыўся, потым быў пераведзены ў Мінск, у Акадэмію МУС.

Два гады адпрацаваў участковым: «Яго нават неяк паранілі падчас затрымання злачынца. Я ў шпіталь ездзіла яго праведваць». Праз нейкі час Давыдовіч атрымаў яшчэ адну адукацыю — псіхолага. «А потым ён працаваў у Адміністрацыі прэзідэнта. Калі там быў, прыязджаў да нас у інтэрнат. Феерверкі дзецям прывозілі. Слава наогул святы нам любіў арганізоўваць. Зорак эстрады вазіў, танцораў розных».

Больш за ўсё, успамінаюць выхавальнікі, Давыдовіч дапамагаў з арганізацыяй вольнага часу для дзяцей у Мінску. Запрашаў групы разам з выхавацелямі, вадзіў па цырках, музеях, усё аплачваў цалкам сам. Начавалі ў яго катэджы: хлопчыкі звычайна спалі на першым паверсе, дзяўчаткі з выхавацелямі — на другім.

У гэтым жа доме Давыдовіч арганізоўваў для ўсіх багатае, як кажуць выхавальнікі, і вельмі смачнае харчаванне. Усім дазваляў адчуваць сябе ў яго «як дома». Нярэдка выхавальнікі адпускалі некалькіх хлопчыкаў саміх пагасціць у свайго былога выхаванца. Але, запэўніваюць, не болей чым на дзве ночы.

Алена Кісялёва, яшчэ адзін выхавальнік Ястрамбельскага інтэрната, з Вячаславам Давыдовічам разам расла і сябравала з ім да гэтага часу. За апошнія сем гадоў яна некалькі разоў на год вазіла да Давыдовіча групы кадэтаў: 13, 14, 15 і 16 гадоў.

Ці не дамагаліся іх? Алена Кісялёва кажа: такога не было. «Мы ж да трох ночы сядзелі з ім на кухні, балбаталі. Дзеці ўсе храплі ўжо, ён нікуды не адлучаўся», — кажа яна. Аднак таму, што ў міліцыі яе сябра абвінавачваюць у сэксуальнай сувязі з непаўналетнімі, жанчына не здзівілася. «Даўно ішлі размовы, што ён іншай арыентацыі. Але я ніколі не паверу, што ён кагосьці там гвалтаваў. Калі мы гаварылі на такія тэмы, ён заўсёды казаў: «Як можна спакусіць чалавека? Прыкаваць ланцугамі?» Маўляў, усё па добрай волі. <...> Калі я ездзіла з дзецьмі, мне заўсёды не зусім падабалася, што ён пачынаў хлопчыкаў чапаць, майку ім здымаў. Казаў — выпраўку глядзець».

## Кожную ноч гвалтавалі

Зайшла размова і пра гвалт у дзіцячых дамах. «Некалькі гадоў таму адзін хлопчык рамантаваў матацыкл, атрымаў тэрмічныя апёкі, — расказвае Алена Кісялёва. — Ён сказаў мне ў бальніцы: «Алена Міхайлаўна, я не хачу больш жыць. Я не хачу вяртацца ў інтэрнат. Лепш смерць». Потым ён прызнаўся: яго кожную ноч гвалтавалі, калі выключалі святло. Яго ж аднакласнікі. Усе ў турме цяпер яны. Я тады казала адміністрацыі, што дзіця скардзіцца, што яго б'юць там, дык мне не паверылі, ля скроні пакруцілі». Хлопчык з лякарні так і не выйшаў.

Алена Міхайлаўна, здавалася, вось-вось заплача. «Гэта ж толькі ў апошнія гады з'явіліся псіхолагі ў дзіцячых дамах, раней жа нічога не было, ніякай культуры. А раней яны траплялі ў дзіцячыя дамы ад нічога не вартых бацькоў, пасля таго, як самі бачылі гвалт у доме».

Вячаслаў Давыдовіч, па яе словах, таксама мае за плячыма цяжкую гісторыю. «Мама нарадзіла яго, калі была ва ўзросце. Яна была бязбожная алкагалічка. Я яе ненавідзела сама, таму што ведала, як Слава ўсё жыццё яе шукаў. І калі нарэшце знайшоў, яна яму сказала коратка: «Пайшоў ты на х*р». Як ён пакутаваў! Ён чалавек з вельмі сур'ёзнымі ранамі. З такімі ранамі, як у яго, не выжывуць і нармальныя не застаюцца. Ён з хворай душой. Гэта выяўляецца ва ўсім яго жыццёвым шляху. Ён жыве толькі для таго, каб даказаць усім, што ён усё можа. Маўляў, вось я быў нікім, я пабудаваў дамы, я магу зрабіць каго заўгодна шчаслівым, дапамагчы камусьці».

**Паводле:**
**Кацярына Сінюк, tut.by**

# Вольга Карач счапілася з беларускамоўнымі ў Фэйсбуку

«Я не хачу тут журыцца наконт беларускай мовы, але аб'ектыўна, на жаль, у сілу розных фактараў яна яшчэ недастаткова развітая», — заўважыла грамадская дзеячка з Віцебска Вольга Карач у адной з дыскусій у Фэйсбуку.

«Вось, напрыклад, якія ёсць беларускія адпаведнікі для расійскіх тэрмінаў «унітаз» і «стаяк»?» — прывяла прыклад Карач. (Яна мела на ўвазе стаяк каналізацыйны.)

«Усё, што ёсць [у беларускай тэрміналогіі] — гэта калькі з рускай мовы. У найлепшым выпадку — з польскай», — заявіла Карач.

А калі яе выказванні выклікалі шквал абурэння, яна ўвайшла ў раж:

«Хамства — гэта адметная рыса беларускамоўных людзей, у якіх нават аргументаў няма, а толькі знявагі і мат.

Амаль кожны беларускамоўны з другога-трэцяга сказа пераходзіць на пагрозы». І дадала: «Прыхільнікаў Лукашэнкі ў беларускамоўных колах нашмат больш, чым сярод астатніх сацыяльных [sic!] групаў».

А таксама: «60 працэнтаў насельніцтва ненавідзіць тых, каго яны называюць «бээнэфаўцамі».

У адказ палемісты звінавацілі Карач, філолага па адукацыі, у элементарным невуцтве. Слова «ўнітаз» прыйшло ў рускую мову з лацінскага «Unitas» — назвы іспанскай фірмы, якая ў пачатку XX ст. першай пачала пастаўляць гэтую прадукцыю ў Расійскую Імперыю.



Вольга Карач падклала сабе свінню сваімі неабдуманымі выказваннямі.

Вольга Карач — актывістка апазіцыі ў Віцебску, былая дэпутатка гарсавета. Яна падумвае пра вылучэнне сваёй кандыдатуры на прэзідэнцкіх выбарах.

У дыскусіі Карач далей паспрабавала згладзіць свае першыя, занадта эмацыйныя выказванні.

Яна сказала, што сама хоча аддаць дзяцей у беларускамоўны садок і школу і гатовая ўдзельнічаць у арганізацыі такіх установаў: «Патрэбны сур'ёзныя дзяржаўныя праграмы для развіцця беларускай мовы, у тым ліку для развіцця тэрміналогіі, а не тупой калькі з суседніх моваў. Але вы маеце права са мной не пагадзіцца і сказаць, што на сёння беларуская мова багатая і развітая, і дзяржаўныя праграмы падтрымкі ёй не трэба», — прымірэнча напісала яна. Але «тытульная мова тытульнае нацыі — тая, на якой размаўляе большасць. У Беларусі гэта азначае — расейская. А не беларуская», — настойвае Карач.

«Хто яшчэ давярае Вользе Карач і лічыць яе перспектыўным палітыкам — з рэчамі на выхад», — пажартавала ў адказ музычны кіраўнік ясляў-садка з Мінска Юлія Шарова.

«Карач становіцца вельмі зручнай для рэжыму з мэтай дыскрэдытацыі апазіцыі і грамадзянскай супольнасці ўвогуле», — мяркуе студэнт-беларус, які вучыцца ў Джорджтаўнскім універсітэце ў Вашынгтоне (ЗША) Валерый Кавалеўскі.

«Моўнае пытанне ў Беларусі — гэта такая трысцінка, якая зламала спіну не аднаму вярблюду, — заўважыла журналістка Святлана Курс. — У той дыскусіі ёсць нашмат горшыя персанажы. І тыя беларускамоўныя, што там крылі мацюгамі [ў адказ Карач], і нейкая фееричная «настаўніца беларускай мовы», якая расказвае пра мову гнюсныя показкі, — адзначае Курс. — Чамусьці ад беларускамоўных беларусаў вымагаецца галубіная рахманасць: табе кажуць, што мова і літаратура касыя, крывыя і кульгавыя, а ты рахмана паўтарай: не, дзядзечка і цётачка, «наша мова такая ж людская». А навошта? Каб дзядзечка і цётачка ад мяне і мае моўкі не адвярнуліся. А навошта мне такія дзядзечкі і цётачкі? Гэта тое ж самае, што суседка прыйдзе і скажа мне: вунь Мэрыл Стрып у Галівудзе цвіце, а твая мамулька ў касцюмчыку фірмы «Світанак» і ў гумавых ботах гародчык палівае. Дык Мэрыл Стрып — каралева, а твая мама — ну, сама панімаеш. Як мне адрэагаваць? Бараніць маму — дурасць, бо і яна, і Мэрыл — цудоўныя. Я такой суседцы скажу: а ідзі ты, Марфуша, лесам, каб я цябе не бачыла».

Святлана Курс выдаліла Карач з фрэндаў.

**Сяргей Гезгала**

# Спроба ўзаконіць трасянку: куды пісаць звароты

У Беларусі плануюць унесці змены ў законы «Аб мовах» і «Аб назвах геаграфічных аб'ектаў», якія дазволяць даваць назвы геаграфічным аб'ектам не выключна на беларускай мове, як цяпер, але і на рускай. У выпадку прыняцця змен, у Беларусі могуць масава з'явіцца вуліцы «Страіцеляў», «Жалезнадарожная» і падобныя. Спецыялісты ўпэўненыя: прыняцце праекта змяненняў можа прывесці да знішчэння нацыянальнай тапанімікі і спарадзіць блытаніну.

Змены ўносяцца па даручэнні Савета Міністраў Беларусі. Цяпер праект змяненняў знаходзіцца ў Дзяржкамітэце па маёмасці.




Летась спроба ўнесці змены ў заканадаўства ўжо рабілася. Тады Рэспубліканская тапанімічная камісія пры Савеце Міністраў поўным складам прагаласавала супраць. Сёлета законапраект «удасканалілі» і падалі зноў.

Што рабіць, калі не хочаш жыць на вуліцы з трасянкавай назвай? Навукоўцы сказалі карэспандэнту «Нашай Нівы», што ў такой сітуацыі павінен прагучаць і голас грамадскасці. Свае звароты можна кіраваць у Дзяржкамітэт па маёмасці, Саўмін, Адміністрацыю прэзідэнта.

Тэкст звароту можа быць наступным:

«Просім не ўносіць зменаў у законы «Аб мовах» і «Аб назвах геаграфічных аб'ектаў», якія дазволяць даваць назвы геаграфічным аб'ектам не выключна на беларускай мове, як цяпер, але і на рускай. У выпадку прыняцця змен, у Беларусі могуць масава з'явіцца вуліцы «Страіцеляў», «Жалезнадарожная». Гэта будзе дыскрэдытаваць нашу нацыю, гэта ганебна. Назвы геаграфічных аб'ектаў павінны давацца выключна на беларускай мове, каб не было хаосу».

**Звароты варта кіраваць у наступныя інстанцыі.**

Дзяржаўны камітэт па маёмасці, зав. Чырвоназорквы, 12, Мінск, 220005, info@gki.gov.by

Савет міністраў РБ, прэм'ер-міністру Мясніковічу Міхаілу Уладзіміравічу, вул. Савецкая 9, 220010 mail@government.by

Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, вул. Кірава, д. 43, г. Мінск

**Вачыма паэта**



Андрусь Мельнікаў

## Нашае ўсё

Што за шум?! Што за роў?!
Кліча Беларусь сяброў!
Кліча Беларусь гасцей:
прыязджайце на хакей!
Варта толькі заплаціць —
будзем вельмі вас любіць,
Будзем вельмі вас кахаць —
абдымаць ды цалаваць,
Усіх абслужым — высшы клас!
Толькі абвалюцься нас!

# Прысуд мастацтву Пазняка: прыняць ці не?

На прэзентацыі сваёй новай кнігі «Terra Dei» Зянон Пазняк сказаў: «Павінна быць літаратура, у якой паказаны станоўчы ідэал, у якой паказанае дабро: як добра быць добрым, як добра быць сумленным. Трэба паказаць харошых людзей, паказаць перспектыву свету, да чаго варта імкнуцца. Трэба, каб чалавеку ад прачытанага было хораша, каб ён браў прыклад. Няможна, каб у літаратуры, асабліва сёння, было паскудства, панавалі нізкія «заброненыя» тэмы. Гэта толькі разбурае чалавечы дух, чалавечую істоту. Ды й гэта ўжо не мастацтва, бо заснаванае на антыэстэтыцы, на паскудстве. Мастацтва ж заснаванае на прыгожым. Няма прыгожага — няма мастацтва. Патрэбна менавіта такая літаратура — заснаваная на прыгожых, станоўчых, пазітыўных ідэалах, якія ўзвышаюць чалавечы дух».

Калі чытаў гэтыя словы Зянона Станіслававіча, я ўзгадаў змест рамана **«Парфума» Зюскінда**. Гэты высокамастацкі твор, які пераклалі на шмат моваў народаў свету (па-беларуску — Васіль Сёмуха), па якім зрабілі мастацкі фільм.

У гэтым творы прыгожыя, прывабныя толькі разнастайныя водары, якія мы можам толькі ўяўляць, ды яшчэ прыгажуні, якіх забівае вычварэнец дзеля парфумнага хараства. Але тым не менш, мастацкасць «Парфумы» дасягаецца нідзе не дэклараванай аўтарам ідэяй выбару чалавекападобнай істотай паміж прыгожымі рэчамі: хараством чалавека і водарам парфумы. І вычварэнец нішчыць прыгажунь дзеля парфумы і ўрэшце праз парфуму падводзіць да знішчэння самога сябе.

А ўзгадайце **«Фаўста» Гётэ**. Самыя прыгожыя спевы ў гэтай оперы гучаць ад хора злых духаў.

Яны спевамі спакушаюць. Прамовы Мефістофеля — аб прыгожых ідэалах. Увесь твор — гэта спакушэнне прыгожым, ласкаю, каханнем.

Перачытайце твор **Васіля Быкава «Аблава»**. У фінале бацька, які шчыра верыць у Бога, скончае жыццё самагубствам, каб выратаваць душу сынакамсамольца. Бо калі той зловіць бацьку, выцягне яго з багны, тады сын будзе катаваць свайго бацьку. Гэты твор выклікае боль у душы, які не мінае з цягам часу. Ён пра панавальную камуністычную сістэму, і прыгажосці ў «Аблаве» няма, а якая мастацкасць!

Знакаміты філосаф **Жан-Поль Сартр** апісаў у сваім творы, як гітлеравец прапанаваў маці зрабіць выбар паміж сынамі. З двух сыноў за іхняе злачынства (па версіі гітлераўцаў) аднаго сына мусілі пакараць смерцю, а другому пакінуць жыццё. А вось выбар гітлеравец пераклаў на іхную маці. Апісанне гэтага выбару было зроблена па-мастацку.

**Лявон Баршчэўскі** калісьці казаў, што мастацкі твор адбыўся тады, калі аўтар апісаў чалавечы Выбар. І апісаў не прымітыўна, а ўлічваючы ўсе нюансы ваганняў душы. І як мы ведаем з жыцця і літаратуры, выбар прыводзіць чалавека і да грахоўных дзеянняў, і да высокамаральных. Да грэхападзення і да ўзлёту да боскіх вяршыняў.

Літаратурны твор нясе тады мастацкую вартасць, калі аўтар так апісаў тое ж «паскудства, нізкія «забароненыя» тэмы», па словах Зянона Станіслававіча, што НЕ «разбурае чалавечы дух, чалавечую істоту», а наадварот, мацуе дух чалавека праз выпрабаваннямі выбару і спрыяе набліжэнню яго істоты да ўзораў Творцы.

**Уладзімір Падгол, кандыдат філасофскіх навук, Мінск**

## Жанчыны на абцасах

Усё, што напісалі пра жанчын на абцасах Алена Ляшкевіч і Дзяніс Марціновіч (**№4**), мае месца быць, таксама праўда. Але галоўная прычына простая — гэта адчуванне недахопу свайго фізічнага, ад прыроды дадзенага, росту. Рост, меншы за 163 см, ужо даўно, не адное стагоддзе, лічыцца замалым. Нават у XVI ст. маскоўскія цары не бралі ў жонкі кабет, ніжэйшых за гэтыя 163 см.

Рост — гэта паказнік фізічнага здароўя таксама. Сёння народ, маючы лепшую ежу, падрос... Кожная разумее, як гэта важна для кар'еры, выбару мужа. Вось і абуваюць абцасы, каб не згубіцца ў натоўпах.

**Людміла Літвінава, Мінск**

## Лірыка Анатоля Лябедзькі

«Вы прачыталі кнігу Анатоля Лябедзькі «108 дзён і начэй у засценках КДБ»? Я асабіста перачытаў тры разы», — піша былы суддзя Канстытуцыйнага суда, а раней — прафесар Інстытута нацыянальнай бяспекі Міхаіл Пастухоў. Для чаго?

**Чытайце ліст Міхаіла Пастухова на сайце nn.by.**

## Паштовая скрынка

**Неабыякаваму.** Аўтары рэйтынгу на Сі-Эн-Эн уключылі туды не толькі наш помнік «Мужнасць» у Брэсцкай крэпасці, а і помнік Папу Яну Паўлу ў Рыме, і помнік гомасэксуалісту Уайлду ў Лондане. Не думаю, што тут справа ў «падрыве нечае ідэалогіі» і «дыскрэдытацыі нашага савецкага мінулага». Проста такое ў аўтараў бачанне мастацкай каштоўнасці. Пра густы не спрачаюцца.

**Усім нагадваем.** Рэдакцыя не вяртае дасланых рукапісаў і мае права не адказваць на дасланыя матэрыялы. Пошты шмат, і мы проста не маем магчымасці адказваць усім. Калі Ваш артыкул у друку не з'явіўся, значыць, ён не пасуе для газеты.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Алексіевіч: «Будучыня будзе еўрапейскай»

Пісьменніца прэзентавала ў Мінску «Час сэканд-хэнд».

На Міжнароднай мінскай кніжнай выставе адной з асноўных падзеяў стала прэзентацыя кнігі Святланы Алексіевіч «Час сэканд-хэнд». Ладзілі яе на стэн-дзе «Белкнігі».

Пакойчык маленькі, трапіць унутр, да пісьменніцы, змаглі ўсяго трыццаць чалавек.

«Асцярожна, зараз выдушыце шкло ў стэндзе», — раз-пораз гучала ў цісканіне. «Гэта яны спецыяльна зрабілі, каб мала хто трапіў», — крычалі людзі.

Нават Алексіевіч з цяжкасцю прабілася на сваё месца. Адначасова ў цэнтры «Белэкспа» пачаўся выступ ансамбля народнай песні.

«Гэта кніга вызваляе нас ад чорна-белага свету, —расказвае Алексіевіч пра «Час сэканд-хэнд». — Раптам мы бачым, што сацыялізм — больш складаная з'ява. Чалавек, які застаўся пасля сацыялізму, — ён і ахвяра, і кат адначасова.

Аднак прысутных цікавяць і іншыя пытанні — напрыклад, стаўленне пісьменніцы да беларускай мовы і беларускай нацыі: Алексіевіч тлумачыць, што нядаўні скандал з яе інтэрв'ю нямецкаму выданню адбыўся з-за непаразумення.

«Калі мяне не зусім дакладна перадала нямецкая журналістка, было вельмі шмат спрэчак, маўляў, Алексіевіч супраць беларускай мовы, — кажа яна. — Не, я не супраць беларускай мовы. Я проста сказала, што 200 гадоў ёй не давалі развівацца. Але я не думаю, што беларусы — паміраючая нацыя. Маем шмат прыкладаў, калі падавалася, што ніякіх шансаў няма, а мова, нацыя ў выніку адраджалася. Паглядзіце на яўрэяў... Гэта залежыць ад нас! Калі мы будзем любіць мову, абараняць яе — яна не знікне», — казала Алексіевіч.

«Нядаўна ў мяне была сустрэча з нямецкім прэзідэнтам. І вось ён увесь час у мяне пытаў — скажыце, чаму беларусы не украінцы? А я не магу адказаць на гэта пытанне. Для гэтага трэба расказаць усю гісторыю».

Алексіевіч прызналася, што кожную раніцу пачынае з навінаў з Майдану. «Уключаю камп'ютар і гляджу — што там ва Украіне. З радасцю і страхам. І шчыра вам скажу, што страху больш».

«Долар аказаўся нашмат больш спакуслівым, чым камунізм. Зайдзіце ў будаўнічую краму і паглядзіце, колькі там людзей. Тысячы. А колькі на сустрэчах з пісьменнікамі, вядомымі людзьмі з Беларусі? Нашмат менш. Людзі хочуць жыць, я не абвінавачваю іх. Але мы жывём у прамежкавы час, мы атрымалі магчымасць нешта мець. І вырашылі, што гэта і ёсць свабода. А на самой справе...»

«Кожны з нас адказвае за свой лёс. Напэўна, гэта і ёсць свабода. А не такая, калі ёсць харошы цар і ён нам усё дасць – справядлівае жыццё. Не. Свабода — гэта калі кожны працуе на новае жыццё. Вось пра гэта мае кнігі»...


Сяргей Гудзілін

Аднак будучыню Беларусі Алексіевіч бачыць беларускай: «Маладым я хачу сказаць, рыхтуйцеся да будучыні. Яна абавязкова будзе, нармальная еўрапейская будучыня. Рыхтуйце сябе».

**Юрась Ускоў**

# Краіна, якая знаходзіцца ў коме

Журналіст расійскага тэлеканала «Дождь» напісаў раман пра падзеі сучаснай беларускай гісторыі.



«Былы сын» выйшаў напрыканцы 2013 у маскоўскім выдавецтве «Время». Цяпер кніга з'явілася ў продажы ў Беларусі. Яе аўтар, Аляксандр Філіпенка, нарадзіўся ў 1984 у Мінску. Вучыўся ў ліцэі імя Ахрэмчыка і ЕГУ. Калі апошні закрылі, з'ехаў у Санкт-Пецярбург. Працаваў журналістам і сцэнарыстам.

У цэнтры «Былога сына» падзеі сучаснай беларускай гісторыі. Дзеянне пачынаецца з трагедыі на Нямізе, а сканчваецца выбухам у метро. Праз жыццё Францыска, галоўнага героя рамана, праходзіць пахаванне Васіля Быкава, смерць Алега Бябеніна, а таксама разгон Плошчы ў 2010 годзе. Але імёны гэтых асобаў не называюцца. Бо галоўнае — не назва краіны, дзе сышлі з жыцця вялікі пісьменнік і вядомы журналіст, а рэакцыя на тое ўлады і грамадства.

Нацыянальная адметнасць у «Былым сыне» прысутнічае: аўтар прынцыпова выкарыстоўвае ў песнях, якія чуюць або спяваюць героі, беларускую мову (напрыклад, «Худсавет» N.R.M. з альбома «Тры чарапахі»). Але Філіпенка робіць стаўку на чытачоў, якія могуць наогул нічога ведаць пра Беларусь або маюць пра яе вельмі цьмянае ўяўленне.

Галоўным вобразам рамана становіцца кома. Францыск трапляе ў яе пасля трагедыі на Нямізе, а прачынаецца перад Плошчай 2010 года. Увесь гэты час за жыццё Францыска змагаецца толькі яго бабуля Эльвіра Аляксандраўна. Яна ўвасабляе нацыянальную творчую інтэлігенцыю, яна памятае стары Мінск. Іншыя сваякі не вераць у выздараўленне Францыска. Цікава, што вобраз айчыма спісаны з доктара Віктара Сірэнкі, які падчас Плошчы «здаў» службоўцам Уладзіміра Някляева.

Істотна, што, пакуль галоўны герой знаходзіцца ў коме, у беларускім жыцці нічога не змяняецца. Стан Францыска параўноўваецца з жыццём усёй Беларусі. Згодна з версіяй аўтара, выхад на Плошчу з'яўляецца выхадам з гэтай комы. Але сканчваецца ён эміграцыяй і аўтара, і героя.

**Максім Кавальскі**

## Аляксандр Філіпенка: «Я напісаў не агітку, а моцны раман»

**«Наша Ніва»: Для каго Вы пісалі кнігу: для беларусаў або для рускіх?**

**СФ:** Для людзей. Пісаць кнігу для адной нацыянальнасці і не пісаць для іншай — гэта літаратурны фашызм. Я пісаў кнігу для сябе. Бо зразумеў, што не магу не напісаць гэтую гісторыю. Я пісаў для тых, у каго дагэтуль засталося жаданне купляць кнігі, вяртацца дадому, адкладаць усе справы і пераносіцца ў свет рамана.

**«НН:» Наколькі расійскім чытачам цікавая беларуская тэматыка?**

**СФ:** Паслухайце, вы хочаце пачуць адказ на пытанне: «Наколькі рускім цікава чытаць пра тое, як у нас усё дрэнна», але раман не пра гэта. У Расіі раман выклікаў вялікую цікавасць, таму што... таму што ён напісаны добра. Кропка. Далей адны толькі здагадкі. Я не ведаю, каму што цікава. Мне піша кожны, напэўна, соты чытач. Паверце, ва ўсіх свае інтарэсы. Магчыма, чытачы ў Расіі зразумелі, што абсалютна нічога не ведаюць пра Беларусь. Я не ведаю. Усе вашыя пытанні вядуць да таго, што я напісаў маніфест або агітку. Але я напісаў раман, моцны раман — і гэта адзіны адказ на пытанне, чаму ў Расіі яго чытаюць. Цікава чытаць кнігу ад першай да апошняй кропкі, а не асобныя яе абзацы, вырваныя з кантэксту.

**«НН»: Наколькі раман аўтабіяграфічны?**

**СФ:** Любы твор так ці інакш аўтабіяграфічны. Пісьменнік не становіцца пісьменнікам толькі ў той момант, калі сядае за пісьмовы стол. Аўтар — памыйная яма, у якую 24 гадзіны ў суткі, як адыходы, звальваюцца перажыванні. Безумоўна, нешта пазней праяўляецца ў тэксце.

**«НН»: Вы лічыце сябе рускім або беларускім пісьменнікам?**

**СФ:** Я — грамадзянін Беларусі. І я не перастаю быць беларусам, калі выязджаю за межы Віцебскай вобласці. Я беларус, калі адказваю на вашыя пытанні ў Мюнхене, і буду ім, калі прылячу ў Маскву. Толькі ці важна ўсё гэта? Я не веру ў нацыянальнасці. Я веру ў добрых і дрэнных людзей. Я веру ў тое, што ў кожнай краіне на адзін квадратны метр іх аднолькава многа і мала. Я веру ў чалавечыя ўчынкі. Цэтлікі вешаюць у сацыяльных сетках, у каментарах. Асабіста вы нічога не зрабілі для таго, каб стаць беларусам. І ніхто не зрабіў. За нас вырашае Бог. Таму ўсе гэтыя пытанні пра нацыянальнасць — давайце гэта хлопцы, якім няма чым рукі заняць, будуць пераціраць у каментарах. Мне ўсё роўна, якім пісьменнікам мяне будуць лічыць, галоўнае. каб не бельгійскім. Не люблю бельгійцаў. Жарт.

**Гутарыў МК**

## Сцісла

### Найлепшая песня ўсіх часоў

Брытанскі часопіс NME апублікаваў у свежым нумары спіс 500 найлепшых песень усіх часоў. Першае месца ў спісе заняў гурт Nirvana з песняй «Smells Like Teen Spirit».

### «Ляпіс Трубяцкі» — «Гурт года 2013»

У сталічным клубе Re:Public адбылася цырымонія ўзнагароджвання пераможцаў музычнай прэміі «Даём рады», якую праводзіць Еўрарадыё. Па выніках галасавання найлепшым гуртам 2013 названы «Ляпіс Трубяцкі». Акрамя таго, іх кліп «Месяц» перамог у намінацыі «Музычнае відэа — 2013».

### Пешаходная зона «пераедзе» ў Верхні горад

У маі 2012 у Мінску ўпершыню з'явілася пешаходная зона, якая займала частку вуліцы Карла Маркса. Па выхадных з мая да верасня на ёй выступалі музыканты, танцоры, акрабаты і фокуснікі. Сёлета імпрэзы, папярэдне запланаваныя на Карла Маркса, адбудуцца на пляцоўцы перад гарадской ратушай, а таксама на прылеглых вуліцах.

### Помнік Сімяону Полацкаму з'явіцца ў Маскве

Помнік Сімяону Полацкаму, выбітнаму асветніку, паэту XVII стагоддзя, усталююць у сталіцы Расіі. Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў заявіў, што з мэрыяй Масквы ўжо ўзгоднена месца, вышукваюцца грошы.

### Памерла Вера Адамовіч

9 лютага на 85-м годзе жыцця памерла Вера Адамовіч, удава пісьменніка Алеся Адамовіча. Яна была філолагам, выдатным спецыялістам у кніжнай справе. А яшчэ захоўвала спадчыну свайго мужа — вялікага гуманіста XX стагоддзя.

**МК**

# Падбіты на ўзлёце

Піша **Аляксей Пяткевіч**.

Маё пакаленне духоўна фармавалася ва ўмовах савецкай сістэмы, нават паспытала дзяржаўнага сталінізму, фінал якога прыпаў на нашы студэнцкія гады. Але мы раслі рознымі, і большасць з нас, хто быў прывучаны бацькамі помніць пра свой чалавечы і нацыянальна-тутэйшы гонар, станавіліся асобамі з уласным ладам жыцця. Але лёс гэтага пакалення быў драматычным: сістэма не прымала самастойнасці, і кожны, хто хоць крыху адхіляўся ад ідэалагічных стандартаў, зведваў жорсткі маральна-псіхалагічны ціск, а то і рэпрэсіі. Некаторыя не змаглі пазбегнуць рэпрэсій ужо на пачатку свае дарогі ў вялікі свет. Такім быў мой аднакурснік па БДУ Федзя Макаранка (1928—1983).

На 1-м курсе ён быў арыштаваны і асуджаны на 6 гадоў зняволення. У турме абвастрылася цяжкая хвароба, якая не пакінула і пазней, калі выйшаў з-за кратаў, і заўчасна абарвала яго жыццё.

Ф.Макаранка быў любімцам у сваёй групе — беларускае аддзяленне філфака, які, дарэчы, быў вельмі прэстыжным тады, і конкурс на ўступных экзаменах (здаваць трэба было 7 прадметаў) дасягаў 10 чалавек на месца.

Невялікі ростам, псіхалагічна кантактны, рухавы, з добрым пачуццём гумару, ён заўсёды свяціўся прыязнай усмешкай. Толькі яго лагодны гумар часта суседнічаў з іранічным стаўленнем да жыцця. Наш аднакурснік многае падвяргаў сумненню, падсмейваўся з рэчаў і з'яваў, якія іншым здаваліся звычайнымі. Адчувалася, што гэты хлопец з Барысава глядзіць на жыццё глыбей, бачыць яго лепш, чым мы, і яго паважалі. Невыпадкова быў ён прызначаны старастам нашай студэнцкай групы.

Але найбольш яго ведалі і шанавалі як паэта. Мог на хаду скласці трапныя гумарыстычныя радкі. Мы захапляліся Федзевымі творамі, прынамсі, лічылі іх самымі лепшымі з усяго, што чыталі і чулі ў студэнцкім літаратурна-аматарскім асяродку.

У інтэрнаце на Віцебскай, 9, у пакоі № 3, вялікім, з высокімі, у рост чалавека, вокнамі (нейкі былы гарадскі асабняк у два паверхі), дзе жыло каля дваццаці першакурснікаў, пераважна філолагаў, большасць пісала вершы. Нават неяк вырашылі выдаваць свой рукапісны літаратурны альманах «Усход»...

Аднойчы Федзя прачытаў верш пра інваліда



нядаўняй вайны, пра яго горкі жабрацкі лёс. Помню дагэтуль тое моцнае ўражанне, якое зрабіў гэты твор сваёй балючай праўдай. Тады на вуліцах Мінска такія калекі з працягнутай рукой сустракаліся часта. І мы, студэнты, нязменна церпячы безграшоўе, хутка міналі іх, сарамліва-баязліва адводзячы ўбок вочы. Пра іх не прынята было гаварыць. А тут вось малады паэт сказаў публічна, нібы тыцнуў носам кожнага з нас у гэту трагічна-страшную рэальнасць. Праз нейкі час хтосьці ў пакоі папрасіў яго яшчэ раз прачытаць той верш. Назаўтра аўтар не знайшоў рукапіса свайго твора, ён знік. Неўзабаве знік і сам Федзя Макаранка. Імгненна разнеслася чутка: яго «забралі».

Сталася гэта ў самым канцы 1949 года. Мы былі разгублены і падаўлены. З той пары аднакурснікі так і не пабачылі свайго сябра-паэта.

Ён некалькі разоў пісаў нам з турмы, адрасуючы лісты Б.Хіневічу, аднаму з самых сур'ёзных хлопцаў у групе. Мне гэтыя лісты адгукнуліся наступным чынам. Калі я ўжо вучыўся ў аспірантуры, аднойчы запатрабавалі, каб прыйшоў на «беседу» ў вядомы таямніча-вусцішны вялікі дом з парадной каланадай на фасадзе, што месціцца і сёння на галоўным праспекце сталіцы. Высветлілася, што іх цікавіць мой ідэалагічны багаж.

Немалады, рудаваты з выгляду маёр, які пратрымаў мяне цэлы дзень і які падчас размовы сурова-пагрозліва папярэджваў («Худо вам будет, Алексей Михайлович, худо!»), выставіў супраць мяне ў якасці аднаго з абвінавачанняў рытарычнае пытанне: чаму гэта я, а не хто іншы быў першым, каму паказваў Хіневіч лісты Макаранкі.

Федзя, выйшаўшы на волю, знайшоў мяне ў Мінску, у аспіранцкім пакоі інтэрната БДУ на вуліцы Свярдлова. Мы тады доўга і сардэчна пагутарылі. Адчувалася, як яму патрэбна падтрымка. Пасля чамусьці на доўгі час расталіся. Можа, я не знайшоў у той час патрэбных яму слоў. Можа...

Знайшлі мы адзін аднаго зноў недзе ў пачатку 70-х, калі я ўжо жыў у Гродне і працаваў у педінстытуце. З таго часу рэгулярна ліставаліся да апошніх яго дзён. Ён заставаўся ў сваім Барысаве, працаваў дыспетчарам на мясцовай аўтастанцыі. Ажаніўся, выгадавалі добрую дачку, якая атрымала педагагічную адукацыю і якой бацька ганарыўся. Жылі ў асобным дамку матэрыяльна сціпла, трымалі невялікую гаспадарку. Пісаў, што невымерна ўдзячны жонцы, якая аддала яму вельмі многа сардэчнай цеплыні і самаахвярна клапацілася аб ім. У лістах трымаўся заўсёды годна, але зноў і зноў мільгала нота глыбокай тугі, якая, праўда, прыкрывалася лёгкай самаіроніяй. Мы звычайна пазбягалі палітычных і літаратурных тэм: я, з свайго боку, баяўся зрабіць яму балюча і нават не ведаў, ці піша ён, як раней. Сёння пра гэта шкадую. Пытанні ж Беларусі, беларушчыны, нават беларускага правапісу хвалявалі яго ўвесь час. Ён быў моцным чалавекам і заставаўся паслядоўным у сваіх поглядах і прынцыпах.

Гартаючы цяпер рукапісы Фёдара Макаранкі — маленькія блакноты, спісаныя дробным акуратным почыркам, нават трохі дзівіўся таму, што свая пазіцыя ў вершах выявілася ў яго зусім рана — яшчэ ў хлапчукоўскія школьныя часы. І не проста пазіцыя, а адназначнае перакананне ў антынароднасці савецкай сістэмы, яе дэспатычнай сутнасці. У паэта-падлетка юная душа была адкрытая насустрач святлу і праўдзе, не магла не рэагаваць на цынічны фальш жыцця.

У 1945 годзе ён напісаў верш «Аб Сталіне». А там — радкі: «Сонца Сталіна ярка ззяе, // Нашы спіначкі // Прыпякае. // Пот ліецца з нас // Ручаямі. // Абмываемся мы ўсе // Слязамі. // Свайго татачку // Усхваляючы, // А ў цёмным кутку // Праклінаючы. // Хай бы сонейка // Не было таго, // Хай бы татачкі // Не было таго, // І жылі б мы ўсе // Прыпяваючы // І свой родны край // Усхваляючы».

У 7-м класе з Макаранкам здарылася першая сур'ёзная непрыемнасць. На ўроку беларускай літаратуры трэба было выканаць творчую працу на тэму «За што я люблю сваю Радзіму» (паводле Янкі Купалы і Якуба Коласа). Ф.Макаранка напісаў вершам, выказаў свае пачуцці да Беларусі, пры гэтым зазначыўшы, што не прымае прыгнёту, які церпіць народ, «змарнелы ад цяжкіх, нялюдскіх пакут». Пачаліся разборкі, якія прывялі аўтара верша аж у кабінет загадчыка гарана, дзе высвятлялася пытанне, хто падвучыў. Відаць, загадчык быў разумным чалавекам, і ўсё абышлося.

Вядома, вершам Ф.Макаранкі не ставала добрай паэтычнай формы, літаратурнай тэхнікі. Былі гэта творы яшчэ вучнёўскія. За гады студэнцтва на філфаку Федзя Макаранка напэўна вырас бы як паэт. Выраслі ж у той жа прыблізна час у БДУ Алег Лойка, Яраслаў Пархута, Уладзіслаў Нядзвецкі, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Кляўко, Мікола Арочка, Ніл Гілевіч, Валянцін Тарас. Тым больш, што да творчасці ставіўся вельмі сур'ёзна. Калі з турмы дасылаў свае вершы дадому, прасіў бацьку зберагчы іх, бо ў іх, як пісаў, «усё маё жыццё».

Але падбіты на самым узлёце таленту, ён ужо не змог рэалізавацца як паэт. Шмат нягод і страт зведала гэтае пакаленне. Фёдар Макаранка мог бы адзначыць сёлета сваё 85-годдзе. Яго ж даўно няма. Але ёсць мы. Ёсць наша памяць, найлепшая зарука таго, што «зерне, кінутае ў ніву, // Ўсходзе ды красуе» (Янка Купала).

Гродна

**Аляксей Пяткевіч** (нар. у 1931) — прафесар Гродзенскага ўніверсітэта.

# Паўстанец Каліноўскага, які пражыў 108 гадоў

Невядомыя факты з жыцця **Ігната Абрамовіча**.

Імя апошняга каліноўца Ігната Абрамовіча для грамадскасці адкрыў на пачатку 2000-х краязнаўца з вёскі Краснае Алесь Харытон. Абрамовіч пражыў найдаўжэй з паўстанцаў Каліноўскага ў Беларусі. Але дагэтуль заставаліся невядомымі цікавыя факты з ягонай біяграфіі. Іх удалося ўзнавіць пры дапамозе нашчадкаў паўстанца.

### Нарадзіўся ў суботніках

Ігнат (Ігнацы) Абрамовіч нарадзіўся ў ваколіцах роднае вёскі Зянона Пазняка Суботнікі (Іўеўскі раён, Гродзенская вобласць). Хлопчык быў ахрышчаны ў мясцовым касцёле Св. Юрыя Пакутніка. Цікава, што фундуш на пабудову гэтага касцёла даў яго верагодны сваяк Ігната Юры Абрамовіч з Варнянаў у 1774.



### Блытаніна з датай нараджэння

У розных крыніцах называюцца розныя даты нараджэння Ігната Абрамовіча: ці то 1836, ці то 1839. Апошняя дата пазначана на надгробку паўстанца. Але Дзяржаўны занальны архіў Маладзечна лічыць слушнай першую дату. А ўнучка каліноўца сцвярджае, што Абрамовіч памёр у 106 год. Мажліва, блытаніну з датамі свядома зладзіў сам паўстанец, каб заблытаць карныя органы.

### Сасланы ў Сібір

Калі выбухнула паўстанне, Ігнату было 24 (калі пагадзіцца з датай нараджэння на помніку) ці 26 гадоў. Маёмасць яго сям'і падчас баявых дзеянняў была канфіскавана, а будынак радавой сядзібы царскія войскі спалілі разам з целамі забітых сваякоў. За ўдзел у паўстанні Абрамовіч адбыў 12 год на катарзе ў Сібіры.

### Вяртанне на Радзіму

Пасля вяртання каліновец уладкаваўся ўпраўляючым маёнтка ў ваколіцах Чанстаховы (Польшча). Ігнат самавукам атрымаў адукацыю і ажаніўся з дзяўчынай з роду Шаблоўскіх. На жаль, жонку Ігната напаткаў трагічны лёс: трапіла пад цягнік. Пазней Абрамовіч перабраўся ў вёску Краснае, што пад Маладзечнам, дзе і дажыў да самай смерці ў 1944.

### Лейтэнант паўстання

У 1933 польскія ўлады ўзнагародзілі Ігната Абрамовіча Памятным Крыжом да 70-годдзя паўстання. У 1938 ён быў запрошаны ў Варшаву на 75-я ўгодкі. Ветэрану выдалі за кошт вайсковага бюджэту 16 злотых на дарогу. У тым жа годзе Абрамовіч атрымаў Бронзавы Крыж Заслугі. Захавалася пасведчанне за подпісам прэм'ера апошняга ўрада даваеннай Польшчы генерала Феліцыяна Славой-Складкоўскага. Ігнат Абрамовіч, як і ўсе іншыя жывыя паўстанцы, быў падвышаны да першага афіцэрскага звання (лейтэнант).

### Ганаровая форма ветэрана

Да скону Абрамовіч хадзіў у паўстанцкай канфедэратцы. Таксама для ветэранаў уводзілася парадная форма. Захаваўся фотаздымак Ігната Абрамовіча 1930-х гадоў, дзе ён адпаведна апрануты ў цёмна-сіні сурдут і шапку-рагатоўку (канфедэратку).

### Нашчадкі паўстанца

Вядома, што Абрамовіч меў дачку і чатырох сыноў. Дзеці сталі тэхнікамі ды інжынерамі. Праўнук Здзіслаў Абрамовіч жыве ў польскім Баляслаўцы. Менавіта ў ягоным архіве захоўваюцца ўзнагароды і дакументы прадзеда.

Кожны ахвочы можа наведаць магілу Ігната Абрамовіча ў Красным. Надгробак знаходзіцца на старых каталіцкіх могілках. Не забывайма нашых герояў!

**Вольга Сямашка**

Уладзіслаў Ахроменка.
Апавяданне.

# Ранішнік

...Аператыўніка з правінцыйнага абласнога Упраўлення выклікаюць напярэдадні навагодніх святаў да начальства: «Ты, таварыш капітан, пра ідэалагічную ініцыятыву «Афіцэры КДБ — дзецям» ведаеш? А пра тое, як Фелікс Эдмундавіч беспрытульнікаў па сутарэннях ратаваў? То слухай заданне: вось табе службовы мікрааўтобус з кіроўцам, вось старлей для кампаніі. Бачыш пункт на мапе? Гэта мястэчка з падшэфнай школай-інтэрнатам, мэтай нашай камандзіроўкі. Заўтра прыязджаеце, адзначаецеся і адпачываеце. Нараніцу праводзіце для дзетак навагодні ранішнік, аддаяце падарункі ад нашага Упраўлення, фатаграфуецеся для справаздачы і з'язджаеце дамоў святкаваць Новы год. Задача ясная? То шчаслівай дарогі і творчага натхнення на ранішніку!»

Наступнай раніцай мікрааўтобус з танаванымі вокнамі выязджае з тэрыторыі Упраўлення і бярэ курс на далёкую вёску. Снег валіць, бы пух з падранай пярыны, дарогу не чысціць, кіроўца-прапаршчык нервуецца...

Пахмурны старлей, які сядзіць у глыбіні салона між скрынямі з падарункамі, паглядае на заснежаную шашу і выказваецца шчыра: начальніка камунальнай службы вобласці даўно трэба пасадзіць, але гэтага ніколі не будзе, бо ягоны пляменнік ажаніўся з дачкой сталічнага генерала, набліжанага да трону. Нявыспаны капітан механічна падхопліваe: ёсць папярэдняя інфармацыя, што генералаў сваяк мае афшор на Брытанскіх Вірджынскіх выспах, і праз той афшор пракручваюцца гро...

І тут у капітанавым мозгу нібы ўрубаецца сірэна паветранай трывогі: «Маўчаць!» Унутраны голас раве так, што чарапная каробка вібруе: «А калі гэты старлей — стукач і правакатар, калі яго да цябе Унутраная бяспека падсунула ці нават якая страшнейшая структура?»

Капітан паслухмяна змаўкае, падцягвае вузел гальштука і спрактыкавана замыкаецца ў класічным чэкісцкім вобразе — суворым і чалавечным, але ж крышачку стомленым. Старлей пагдядае на капітана падазрона і таксама змаўкае, прытым па вачах яго відно, што і ён лічыць суразмоўцу патэнцыйным правакатарам.

З паўгадзіны едуць моўчкі. Снегу на шашы болей. Кіроўца мацюкаецца спярша шэптам, але з кожным разам усё гучней. Старлей інтэлігентна раіць кіроўцу падвысіць свой культурны ўзровень. Капітан на знак згоды выцягвае «Рэпертуарны зборнік спектакляў для школьных ранішнікаў». Слініць пальцы, гартае, пераглядае дзейных персанажаў; прасякаецца культурай. Трэба ж яшчэ выбраць што нескладанае, размеркаваць ролі... дый хоць разок парэпетаваць!

Дзіцячы ранішнік можна абмеркаваць з калегамі: тэма хаця і службовая, але ж па вызначэнні па-за дзяржаўнымі таямніцамі!

— Можа, што пра Дзеда Мароза і Снягурку паставіць? — капітан уважліва праглядае змест. — Я падарункі перадам, а вы з таварышам прапаршчыкам пераапранецеся і павіншуеце...

— Я, у натуры, бабай пераапранацца не буду! — абурана папярэджвае кіроўца.

— А пра Шцірліца там няма? — старшы лейтэнант зазірае праз плячо ў рэпертуарны зборнік.

— Палкоўнікам Ісаевым хочаш быць? — нязлосна падколвае капітан.

— Лепш групэнфюрэрам Мюлерам! — сарамліва прызнаецца старлей. — Я б на ўсіх гэтых уродаў, якія крадзенае бабло ў афшорах круцяць, такое гестапа навёў бы... дый не толькі на іх!

Капітан робіць выгляд, што не пачуў.

— А вось выдатны сюжэт, пра свінняў, — знаходзіць ён нарэшце і адразу натхняецца. — Баб няма, афшораў няма, і ўвогуле...

Старлей млява глядзіць у зборнік і нешта шэпча — відаць, раіцца з унутранымі галасамі. Нарэшце выцягвае з валізы пляшку віскара і па-панібрацку прапануе:

— А давай пабазарым, як тэатрал з тэатралам!..

У заснежанае мястэчка мікрааўтобус упаўзае па-цёмнаму: шашу замяло так, што давялося двойчы чакаць пагоды каля прыдарожных гандэлкаў. Засяленне ў гатэль праходзіць без збояў.

Мікрааўтобус стомленай субмарынай нерухомее пад вокнамі. Прапаршчык выпраўляецца ў выведку па крамах. Старлей кроіць закуску, стаўляе талеркі і гранчакі. А капітан, верны прысязе і доўгу, выклікае дырэктара школы-інтэрната: заўтра на ранішніку касцюмаваны спектакль ставім, дык трэба нам вось такі і такі рэквізіт... Дырэктар праглядае спіс дзейных асобаў і абяцае: «Арганізуем, заразахлопчыка з інтэрната прышлю, прынясе ўсё патрэбнае».

...Першым вырубаецца кіроўца-прапаршчык. Усю дарогу ён зайздросна лыпаў на афіцэрскі віскар, вось і не вытрымлівае рытму стартавых дозаў. Валіцца пысай у стол, як застрэлены.

— Ён занадта многа ведаў! — рэзюмуе старшы лейтэнант.

Атрад не заўважыў падзення байца. Ценькаюць пляшкі, плямкаюць вусны, рыпяць сківіцы. Паддаты старлей глядзіць на суразмоўцу маркотнымі вачыма алянятка Бэмбі і пачынае расчулены маналог: і на храна ён у гэты КДБ пайшоў? На Захад выязджаць нельга, у сацыяльных сетках рэгістравацца нельга, кантактаваць з іншаземцамі па-за службовымі заданнямі нельга... Відавочных мярзотнікаў у турму пасадзіць — і тое, аказваецца, нельга!

— А гэтыя мудакі-ідэолагі нам яшчэ пра мужнасць і гераізм упарваюць! — енчыць ён, і з кожным словам узбагачае прамову дысідэнцкімі інтанацыямі. — Які на хран гераізм, калі мы тут адзін аднаго баімося? Ведаеш, што нас усіх уратуе? Я табе скажу...

Капітан выслухоўвае, у думках пагаджаецца накont масавых расстрэлаў усяе вертыкалі аж да самага верху. Ён можа расказаць пра ўсіх гэтых генералаў, губернатараў і міністраў куды страшнейшыя рэчы, але ў дыскусію не ўвязваецца; каставая п'янка — яшчэ не нагода для шчырасці. Капітанавы вочы рэфлекторна мружацца, як на стрэльбішчы. Галасы ў галаве адзываюць і пачынаюць млявую сварку. Ён клацае воўчым ашчэрам, збіраецца класціся спаць... але не знаходзіць моцы ўзняцца з-за стала.

— А што мы можам? — панура выдыхае капітан.

— Нічога, — інфантыльна пагаджаецца старлей і адкаркоўвае чарговую пляшку.

І тут у курадыме гатэльнага нумара матэрыялізуецца хлопчык сіроцкага выгляду. Аддае камітэтчыкам груваскі цэлафанавы пакет і гэтак жа неўпрыкмет распускаецца ў паветры. Старшы лейтэнант шамаціць пакетам:

— Во! Культурная праграма прыехала! Тое, што дырэктар школы табе абяцаў!

...Знянацку капітан адчувае, што да ягонага твару датыкаецца нешта слізкае і цёплае ... Твар пячэ, вочы звужаюцца, з распаленага рота выцягваецца ліпучая нітка сліны. Ён збіраецца памацаць твар, але ж адна рука занятая чаркай, другая — відэльцам з надкусанай каўбасой. А старлей падымаецца па-над сталом і пераможна рагоча, бы гестапавец у катавальнай камеры:

— Гы-ы-ы-ы!.. Ды ты на сябе глянь! Геро-ой!..

Гэта — апошняе, што фіксуе свядомасць капітана. Галасы, як па каманде, змаўкаюць, і чэкіст правальваецца ў бяздонныя глыбіні...

> **Замест звыклага твару — даволі рэалістычная маска ваўка, намёртва прыклееная да скуры**

Абуджаецца яго будзільнік. Праўдзівы прафесіянал — учора паставіў на патрэбны час. Паветра шэрае і вільготнае, нібы прасціна ў следчым ізалятары. У роце — наждак, уваччу — жвір, шкілет тузаецца і вібруе, рыхтык кастаньеты. Апухлы старлей скача на адной назе і не можа патрапіць другою ў калашыну. Прапаршчык у кіслотным воблаку мацюкоў пахмяляецца недапіткамі са стала.

Да пачатку ранішніка паўгадзіны. Капітан сунецца ў ванную, падымае вочы на люстэрка... І імгненна выскоквае. Асцярожна кранае далонню твар — і адрывае руку, нібы ад распаленага праса. Хвіліну вагаецца —глянуць яшчэ раз у люстэрка ці не — і вырашае, што не варта.

Ранішнік, зрэшты, ніхто не адмяняў. Капітан, баючыся сустракацца вачыма са шклянымі паверхнямі, млява цягае скрыні з мікрааўтобуса да самага школьнага ганка і спрабуе не зважаць на дзетак, якія тыцкаюць у яго пальцамі.

— А якая ў мяне роля на ранішніку? — сціпла цікавіцца ён у старлея. — У сэнсе — што трэба рабіць?

— Мы з прапаршчыкам і дырэктарам школы будзем ад цябе па сцэне хавацца, а ты раві на ўсю залу, што і свінафермы нашы разбурыш, і самiх нас з'ясі! — старшы лейтэнант паглядае на суразмоўцу ніякавата.

Уручэнне падарункаў праходзіць па звыклай схеме, з пажаданнямі новых вяршыняў у вучобе, адвагі і гераізму ў паўсядзённым жыцці. А пасля пачынаецца ранішнік...

На сцэне — тры бутафорскія буданчыкі, з кожнага даносіцца гарэзлівае рохканне. Капітан хутаецца ў шэры плашч з прымацаваным ніжэй спіны доўгім хвастом, млява глядзіць на першы буданчык і дрыготкім голасам абяцае зжэрці гаспадара, пасля чаго нямоцна б'е ў дзверы нагою. Намёт імгненна складаецца, з-пад руінаў выбіраецца старшы лейтэнант КДБ, апрануты ў ружовы балахон і з маскай свінні на твары. Палахліва азіраецца і з пранізлівым віскатам уцякае ад старэйшага па званні чэкіста ў суседні буданчык, дзе рохкае прапаршчык. Там паўтараецца тое самае, і па хуткім часе пераапранутыя свіннямі камітэтчыкі хаваюцца ў апошнім ацалелым дамку.

І тут на капітана накатвае лютая пахмельная нянавісць да ўсяго гэтага свінства: прадажнае начальства, тупарылыя гаспадары душаў і жыццяў, халопская прыніжанасць і штодзённы ліпучы страх на службе... Чэкіст пырскае слінай, клацае сківіцай, і ягоныя вочы запальваюцца змрочным драпежным ззяннем. Ён падбягае да апошняга дамка і шалёна калоціць яго нагамі. Дамок аказваецца занадта трывалым; раз'юшаны капітан цісне плячом, б'е локцем, з усяе моцы засаджвае ў дзверы кулаком. Дамок хістаецца, але стаіць.

І тут камітэтчык выбухае:

— Казнакрады!.. Ідэолагі!.. Ненавіджу!.. Усім — расстрэл з канфіскацыяй!.. — ён раве так агрэсіўна, што дзеткі ў актавай зале спалохана хаваюцца за спінкамі крэслаў...

Праз паўгадзіны знясіленыя чэкісты пахмяляюцца півам. Капітан нарэшце наважваецца глянуць у люстэрка.

Замест звыклага твару — даволі рэалістычная маска ваўка, якую, аказваецца, учора начапіў на яго старлей. Чэкіст спрабуе сцягнуць гэтае ганебнае пап'е-машэ, але маска намёртва прыклееная да скуры...

Тэатральную пысу даводзіцца асцярожна зразаць лязом, потым доўга выдзіраць твар распушчальнікам. Дахаты капітан вяртаецца цвярозым, бы лядзяш, і плямістым, што той леапард. Усе навагоднія святы ён падпраўляе твар танальнымі крэмамі і ўлагоджвае галасы мінералкай...

...Пра феерычную пастаноўку школа згадвала яшчэ доўга. Выхаванцы, якія нашмараваў воўчую маску клеем з сярэдзіны, так і не знайшлі.

*Газетны варыянт. З кнігі «Музы і свінні», нізка «Уранія».*



**Уладзіслаў Ахроменка**

Нарадзіўся ў 1965 у Гомелі. Пісьменнік, празаік, кінасцэнарыст, драматург. Большасць твораў напісаў у суаўтарстве з Максімам Клімковічам. У 2011 выйшла ягоная кніга «Тэорыя змовы», у 2013 — «Музы і свінні». Жыве ў Чарнігаве (Украіна).

## Скандал у мінскім ТЮГу: у «Трох парсючках» знайшлі… палітычны падтэкст

24 студзеня мастацкая рада тэатра выказала недавер дырэктару **Мікалаю Казюліну**. 25 студзеня прайшоў агульны сход.

Трупу абурыў той факт, што дырэктар узяў курс на стварэнне забаўляльнага прадукту. Акцёры хацелі б захаваць тэатр асветніцкім.

Акрамя таго, Казюлін прапанаваў скасаваць пасаду мастацкага кіраўніка, якую займаў рэжысёр **Уладзімір Савіцкі**. Па юрыдычным статусе гэтая пасада роўная дырэктару. З таго часу ТЮГ знаходзіцца ў віры падзей.

У СМІ прайшла інфармацыя, што дырэктар папрасіў прабачэння ў падначаленых і вырашыў сысці. Але агульны сход 6 лютага калектыву паказаў, што Казюлін не збіраўся здавацца.

На сустрэчу завіталі чыноўнікі — **Ігар Карпенка**, віцэ-мэр Мінска і лідар пралукашэнкаўскай кампартыі, а таксама **Віталіна Рудзікава**, начальнік упраўлення культуры Мінгарвыканкама.

Карпенка паведаміў, што пасада мастацкага кіраўніка будзе захаваная. А першай пастаноўкай тэатра ў новым будынку стане «Сінія птушка» Морыса Метэрлінка, якая прадэманструе ўсе тэхнічныя магчымасці новага будынка і новай залы. Менавіта ад гэтай пастаноўкі планаваў адмовіцца Казюлін.

Ігар Карпенка намаляваў аптымістычную карціну хуткага пераезду ў новы будынак, які запланаваны на лета, а пасля — пастаноўку новых спектакляў. Але аўдыторыя сустрэла гэтыя словы з абурэннем:«Вы не бачылі, як адкрываўся Купалаўскі тэатр? Што вы нам казкі расказваеце!»

Акцёры мелі на ўвазе, што для пераезду ў новы будынак і пераносу спектакляў на сцэну звычайна патрабуецца шмат часу.

Далей слова атрымаў Мікалай Казюлін, які зноў заявіў, што гатовы сысці са сваёй пасады, калі калектыў яму не давярае (першы раз ён заявіў гэта на сустрэчы ў гарвыканкаме). Калектыў сустрэў гэтыя фразы авацыяй. Але цалкам не паверыў Казюліну, бо падазрае яго ў падвойнай гульні.

Як на сходзе, так і ў кулуарах ТЮГаўцы скардзіліся, што дырэктар выклікаў да сябе акцёраў, «выкручваў ім рукі» і імкнуўся перавабіць на свой бок (напрыклад, намесніку начальніка аднаго з цэхаў ён нібыта паабяцаў больш высокую пасаду. Зразумела, за падтрымку).

Уладзімір Савіцкі прывёў факт, калі Казюлін абвінаваціў яго ў палітыцы, якая нібыта прысутнічае ў дзіцячых спектаклях. У прыватнасці, дырэктар знайшоў палітычны падтэкст у казцы «Тры парсючкі», разлічанай для дзяцей ад 5 гадоў. Казюліна збянтэжылі заклікі герояў будаваць дом на добрым падмурку.

**Максім Кавальскі**







## ГАНДБОЛ

### «Дынама» — «Металург»

**16 лютага ў Палацы спорту (пр.Пераможцаў, 4)** адбудзецца гульня ў рамках групавога этапа Лігі чэмпіёнаў паміж нашым «Дынама» і македонскім «Металургам». Пачатак а 19.

## КАНЦЭРТЫ

### «Закаханы фэст»

«Закаханы фэст» пройдзе **13 лютага ў клубе «Re:public» (Прытыцкага, 62)**. Выступаюць гурты: Rokash, Pawa, Omut, Лютавер'е, Rosy. Пачатак а 19-й.

### «Разбітае сэрца пацана»

**14 лютага ў клубе «Цэнтр» (Кастрычнічкая пл., 1)** а 19-й — святочны канцэрт гурту «Разбітае сэрца пацана».

### J:Морс

**14 лютага ў клубе «Re:public» (Прытыцкага, 62)** а 19-й — выступ гурту J:Морс.

### Паліна Рэспубліка ў Віцебску

**14 лютага а 19-й у КЗ «Віцебск» (парк Фрунзэ, 1)** — сумесны канцэрт Akute і Паліны Рэспублікі.

### Tonqixod

**16 лютага а 19-й у TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** выступае гурт Tonqixod.

### «СашБаш»

**17 лютага ў паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** адбудзецца вечар высакавольнай паэзіі «СашБаш», прысвечаны Аляксандру Башлачову. Удзельнічаюць: Яўген Барышнікаў, «Нельга забыць», Віталь Рыжкоў, «Бабзэбі» (Дар'я Кадамская і Ксенія Шашко), «Гарадскі вал».

## ВЫСТАВЫ

### Беларусь у Першай сусветнай вайне

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12)** дзейнічае ўнікальная фотавыстава «Беларусь у Першай сусветнай вайне», прысвечаная трагічнай гісторыі Беларусі ў пачатку XX стагоддзя.

### Персанальная выстава Арлена Кашкурэвіча



**У Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе персанальная выстава Арлена Кашкурэвіча. Значнае месца ў творчасці мастака займае кніжная графіка. Праца над стварэннем ілюстрацый да выданняў беларускіх і замежных аўтараў неаднойчы высока ацэньвалася на міжнародным узроўні. На выставе будзе прадстаўлена каля 80 работ. Акрамя добра вядомых малюнкаў і эстампаў, экспануюцца раннія творы і працы апошніх гадоў.

## ТЭАТРЫ

### 13 лютага

**Беларускай драматургіі** — Ліфт
**Купалаўскі** — Местачковае кабарэ
**Лялек** — Чаму старэюць людзі?..
**Оперы і балета** — Князь Ігар
**Юнага гледача** — Мой бедны Марат

### 14 лютага

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Купалаўскі** — Местачковае кабарэ
**Лялек** — Шоўк
**Оперы і балета** — Вітаўт
**Юнага гледача** — Крыху пяшчоты

### 15 лютага

**Беларускай драматургіі** — Ціхі шэпт сыходзячых крокаў
**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Мыйдадзір
**Оперы і балета** — Кармэн
**Юнага гледача** — Царэўна-жабка

### 16 лютага

**Беларускай драматургіі** — Сталіца Эраўнд
**Купалаўскі** — Офіс
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Оперы і балета** — Серэнада. Шэсць танцаў
**Юнага гледача** — Беласнежка і сем гномаў

### 17 лютага

**Беларускай драматургіі** — Амбівалентнасць
**Тэатр Ч** — Дзяды

### 18 лютага

**Беларускай драматургіі** — Купала. Кругі раю
**Купалаўскі** — Пінская шляхта
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Оперы і балета** — Снягурка

### 19 лютага

**Беларускай драматургіі** — Беглы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат
**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Юнага гледача** — Сіні аўтамабіль




## КІНО

### Апантаны

Воўк з Уол-стрыт
**Рэжысер:** Марцін Скарсэзэ
**У ролях:** Леанарда Дзі Капрыа, Джон Хіл, Марго Робі, Мэцью Маконэхі, Кайл Чандлер
ЗША, 180 хв.

Малады клерк Джонатан Белфарт наймаецца на працу ў брокерскую кантору. Яго прываблівае тая лёгкасць, з якой супрацоўнікі зарабляюць тысячы даляраў, і іх прыгожае жыццё. Ён валодае асаблівым талентам уплыву на людзей: любога ён можа перакана́ць укласці грошы ў акцыі. Але хутка ён пазбаўляецца працоўнага месца: кантора прагарае. Тады Джонатан вырашае заснаваць сваю кампанію і набірае некалькі чалавек, якія могуць прадаць што заўгодна і каму заўгодна. Яны становяцца яго найбліжэйшымі паплечнікамі, і справы кампаніі хутка ідуць угару.
Фільм Скарсэзэ — адзін з галоўных прэтэндэнтаў на Оскар-2014 у намінацыях «Найлепшы фільм», «Найлепшы рэжысёр» і іншых. Трохгадзінная стужка ахоплівае жыццё брокера Джонатана Белфарта ад пачатку яго кар'еры да ее завяршэння ў турме — месцы, дзе ён нарэшце змог адпачыць ад свету шалёных грошай і ўсяго, што суправаджае такое жыццё. Леанарда Дзі Капрыа стварае вобраз чалавека, апантанага грашыма, наркотыкамі, сэксам, надзвычай натуральна і таленавіта. І хоць воўчае жыццё амерыканскіх брокерскіх кампаній падаецца весела і лёгка, сумневаў не застаецца: за ўсё трэба плаціць, і зусім не грашыма.

**Настасся Уласава**



# Быць Б’ёрндаленам

Нарвежац выйграў дванаццаты алімпійскі медаль у 40 гадоў.

Многія сучасныя біятланісты прызнаюцца, што ў дзяцінстве марылі «стаць Б’ёрндаленам». Гэты чалавек быў легендарным яшчэ пятнаццаць гадоў таму. За гэты час цэлыя пакаленні біятланістаў пачыналі і скончвалі кар’еру. А Б’ёрндален усё на лыжні. Прычым не проста адбывае нумар, а змагаецца за найвышэйшыя месцы.

Нарвежцу Оле-Эйнару Б’ёрндалену ўжо 40 гадоў. Узрост паважаны для любога спартсмена. Ясна, ногі ўжо не тыя, як дзесяць гадоў таму, калі нарвежац упарта змагаўся за першынство з французам Рафаэлем Пуарэ. Таму даводзіцца спадзявацца не толькі на хуткасць, але і на трапнасць.

Безумоўнымі фаварытамі мужчынскага спрынту былі француз Мартэн Фуркад і нарвежац Эміль Хэгле Свендсан. Менавіта яны некалькі апошніх сезонаў змагаюцца між сабой за лідарства, не надта звяртаючы ўвагу на астатніх атлетаў. Б’ёрндалена калі і называлі сярод прэтэндэнтаў на медалі, то ў другім эшалоне.

Аднак лідары правялі гонку нечакана слаба (тое самае праз дзень паўтарылася ў жанчын, калі праваліліся Домрачава, Бергер і Соўкалава). І тут на першае месца выйшаў Б’ёрндален, перамозе якога не зашкодзіў нават адзін штрафны круг. На фінішы ён на паўтары секунды апярэдзіў аўстрыйца Дамініка Ландэрцінгера.

А вось трэцяе месца абсалютна нечакана для ўсіх заваяваў 31-гадовы чэх Яраслаў Соўкуп, які да гэтага ўсяго тройчы падымаўся на п’едэстал. А мінулы сезон у Кубку свету скончыў на не самым пачэсным 56-м месцы. Такое бывае на Алімпіядах. Чатыры гады таму ў Ванкуверы беларус Сяргей Новікаў увогуле ўпершыню ў жыцці трапіў у тройку прызёраў.


REUTERS

Залаты фініш Оле-Эйара.

Гэта дванаццаты алімпійскі медаль Б’ёрндалена. Па гэтым паказніку ён дагнаў славутага земляка-лыжніка Бёрна Дэлі (гэта не адзін і той жа чалавек, як многія думаюць).

Оле-Эйнар — вясковы хлопец, які вырас недалёка ад горада Драмен. «У нас было дванаццаць кароваў і пяцёра дзяцей. Дык вось часта каровам увагу надавалі большую, чым дзецям. Мы жылі нармальна, не скажу, што шыкоўна. Белы хлеб, напрыклад, бачылі толькі на Раство. Садавіну — раз на тыдзень. Такое ўвесь час, ці не так было. Такое жыццё і зрабіла з мяне чалавека», — расказваў біятланіст.

Першым трэнерам Б’ёрндалена быў немец з ГДР. Нарвежац кажа, што дасягнуў многага ў тым ліку дзякуючы тым трэніроўкам. ГДРаўская школа выхавала такіх біятланістаў, як Рыка Грос і Свен Фішар.

«Б’ёрндалена заўсёды цікавілі толькі трэніроўкі, адпачынак і жанчыны», —казала біятланістка Ліў-Грэйт Пуарэ (Шэльбрэйд). Ён быў жанаты з італьянскай спартсменкай Наталі Сантэр, аднак пасля шасці гадоў сужэнства пара распалася. «У адносінах да жанчын біятланісты не моцна адрозніваюцца ад усіх астатніх: нам падабаецца, калі ў жанчыны ясны погляд і прыгожая дупа», — казаў нарвежац.

Хадзілі нават чуткі, што Б’ёрндалена звязваюць рамантычныя адносіны з нашай Дар’яй Домрачавай, аднак абое адмаўляюць гэта.

Б’ёрндален — чалавек з асаблівай псіхікай. Ён памяшаны на чысціні і баіцца бактэрый. Напрыклад, на ўсе спаборніцтвы ён ездзіць з уласным пыласмокам і першае, што робіць у гатэлі, — старанна пыласосіць нумар. Дарэчы, ягоным асабістым псіхолагам з’яўляецца якраз былы прадавец пыласосаў, які пераканаў Олэ-Эйнара набыць прыладу. А яшчэ нарвежац стараецца як менш паціскаць руку.

У Б’ёрндалена яшчэ шмат самых розных талентаў: ён умее хадзіць па канаце і па гарачым вуголлі.

Па сканчэнні гэтага сезона нарвежац сыходзіць з біятлона. У спартыўную гісторыю апошніх гадоў ён упісаў сваё імя побач з такімі атлетамі, як баксёр Майк Тайсан, веласіпедыст Лэнс Армстранг, баскетбаліст Майкл Джордан, гоншчык Міхаэль Шумахер і плывец Майкл Фелпс.

**Зміцер Панкавец**



**Славачка з Цюмені**

Жаночы біятлонны спрынт другую Алімпіяду запар выйграе 29-гадовая прадстаўніца Славакіі Настасся Кузьміна. Яна родам з Цюмені, выступала за зборную Расіі. Але зорак з неба ніколі не хапала. Мабыць, таму расейская федэрацыя і не стала перашкаджаць, калі Настасся перайшла пад славацкі сцяг. Цяпер яны разам з мужам, ізраільскім лыжнікам Даніэлем Кузьміным, жывуць у невялікім горадзе Баньска-Быстрыца. Дарэчы, родны брат Кузьміной Антон Шыпулін заняў чацвёртае месца ў мужчынскім спрынце. Ён выступае за Расію.

# Героі Алімпіяды

Людзі, якія здзівілі ў Сочы.

### Каміль Стох (Польшча)



Польшча заўсёды славілася сваімі скакунамі з трампліна. Дзіва што! У краіне ёсць выдатны комплекс для падрыхтоўкі спартсменаў у Закапаным. Яшчэ ў міжваенны перыяд Станіслаў Марусаж станавіўся медалістам Чэмпіянату свету. Акадэмія фізкультуры ў Кракаве таксама названая ў гонар скакуна з трампліна — яна носіць імя Браніслава Чэха. Гэты чалавек выйграваў чэмпіянаты Польшчы ў зімовых відах спорту аж 24 разы. У 1944 годзе ён загінуў у канцлагеры ў Аўшвіцы.

Апошнім зімовым героем Польшчы быў Адам Малыш. Любоў да гэтага спартсмена была бязмежнай у суседняй дзяржаве. І любіць было за што. Малыш чатыры разы прымяраў медалі Алімпіяд. Але да золата так і не дацягнуў. За яго гэта зрабіў маладзейшы Каміль Стох. У Сочы менавіта ён прынёс Польшчы першы медаль, і адразу залаты.

### Юлія Ліпніцкая (Расія)



15-гадовая дзяўчынка з Екацярынбурга зачароўвае ўвесь свет. Юля зрабіла вялізны ўклад у поспех Расіі ў камандных спаборніцтвах у фігурным катанні. На лёд Ліпніцкая выйшла, калі ёй было ўсяго чатыры гады. У сезоне 2011/2012 змагла выступаць у дарослых спаборніцтвах і з таго часу амаль нікому не саступае.

Магчыма, не паверыце, але пакуль руская/савецкія фігурысты, пры ўсім дамінаванні ў гэтым відзе ніколі не выйгравалі на Алімпіядах спаборніцтвы сярод жанчын. Былі перамогі ў мужчын, парнікаў. А вось у жанчын рэй заўсёды вялі амерыканкі. Сёлета Ліпніцкая рызыкуе перарваць такую непрыемную тэндэнцыю. А вось Плюшчанку спадзявацца на золата Сочы наўрад ці даводзіцца.

### Сёстры Жустын і Хлоя Дзюфур-Лапуант (Канада)



Унікальны выпадак адбыўся на спаборніцтве ў могуле (адзін з відаў фрыстайла). Дзве найвышэйшыя пазіцыі занялі родныя сёстры Жустын (золата) і Хлоя (срэбра) Дзюфур-Лапуант.

**ЗП**

Мова



## Як будзе кёрлінг па-беларуску?

5 лютага чытачам сайта nn.by было прапанавана прыдумаць беларускі адпаведнік слову «кёрлінг» — аднаму з відаў алімпійскай праграмы, дзе спартсмены пускаюць па лёдзе гранітныя камянюкі, каб трапіць бліжэй да меткі «хаткі».

Амаль ва ўсіх еўрапейскіх мовах гэты від спорту застаецца «кёрлінгам». Акрамя ісландскай, літоўскай і эстонскай, у якіх любяць усе запазычанні замяняць самабытнымі адпаведнікамі. У літоўскай мове кёрлінг называецца akmenslydis, то бок «слізганне камянёў», а ў эстонскай — Jääkeegel, лядовы боўлінг. А па-ісландску krulla — той самы германскі корань.

Вось які каментар быў атрыманы ад Дзядзькі з Вільні:

«Во дзіва. Слухайце, ды колькі помню, у нас гэтую гульню заўжды слізгачом называлі. Нацягаюць хлопцы з разбітага млына старых жоранаў (былі такія невялічкія), да сажалкі падкоцяць — і давай слізгаць. Яны яшчэ так чокалі весела, як сутыкаліся адзін з адным. А каб тыя слізгачы ямчэй шпурляць, дык у дзірку жорана палку ўстаўлялі. Здаралася, праўда, і пад лёд жораны правальваліся, добра што сажалка неглыбокая. Улетку выцягвалі. Было рогату. Але швабрамі лёд не націралі, не было такой дураты».




Расіянка выпадкова зладзіла стрыптыз. Бронзавая медалістка Сочы-2014 у канькабежным спорце Вольга Граф расказала, што забылася пра адсутнасць бялізны пад спартыўнай формай, калі расшпіліла касцюм на фінішы алімпійскай гонкі.

REUTERS




Прэм'ер Расіі Мядзведзеў заснуў на адкрыцці Алімпіяды?



Амерыканскі бабслеіст выламаў дзверы ў алімпійскай вёсцы. «Я быў у душы, дзверы заклініла. Тэлефона ў мяне не было, каб паклікаць на дапамогу, таму прыйшлося скарыстацца навыкамі разганяючага і выбіць дзверы», — напісаў Куін у сваім твітары.




Такі круты бодзіарт быў створаны ў мінскім казіно «Вікторыя». Малюнак стаў сапраўдным мемам у расійскамоўным інтэрнэце.



## Анекдоты і жарты

* * *

Першы рэкорд сочынскай Алімпіяды ўсталяваны Дзмітрыем Мядзведзевым: ён заснуў ужо на чацёртай хвіліне адкрыцця.

* * *

Адкрыццё сочынскай Алімпіяды спадабалася ўсім, апроч расійскіх падаткаплацельшчыкаў.

* * *

Міністр прыходзіць дахаты і кажа жонцы радасна:

— А мяне звольнілі з пасады!

— Саша, а чаму ты такі радасны?

— Астатніх членаў урада пасадзілі.

* * *

На антыкарупцыйным пасяджэнні адбылося самазагаранне васямнаццаці шапак.

* * *

Фраза «Я з Камітэта дзяржкантролю» так і не змагла напалохаць мядзведзя ў лесе.

* * *

— Вы праверылі маю курсавую?

— Так! Усёй кафедрай смяяліся.

* * *

– Ад чаго ты так пахудзела?

– Ды на працы заробак не даюць, працую да ночы, начальнік на нервы дзейнічае.

– Дык звальняйся.

– Не магу. Яшчэ тры кілаграмы скінуць трэба.

* * *

Абвестка:

«Брыгада грузчыкаў шукае цікавую, займальную, творчую працу.

Інтым не прапаноўваць».

## «НН» сто гадоў з вамі

**Фінансавая камісія Думы** пастанавіла скасаваць заграбічныя пашпарты, астаўляючы толькі падатак ад іх з выязджаючых заграніцу.

**«НН». №7. 1914.**

**Гэта было крута.** Беларусы перамаглі ў тэніс Расію. Як проста і як цяжка стаць нацыянальным героем! Выхад траўмаванага Ваўчкова на корт у Кубку Дэвіса застанецца ў гісторыі спорту нароўні з учынкам Аляксандра Мядзведзя, што падчас двубою на вачах у суперніка ўправіў зламаны палец, альбо перамогай Лэнса Армстранга ў «Тур дэ Франс» пасля таго, як ён вылечыўся ад раку.

**«НН». №6. 2004.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднаўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 16.30 11.02.2014.

Замова №608.

Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

